# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС
СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА
БУДАЎНІЦТВА
С.-ГАСПАДАРКІ



№2

ЛЮТЫ

ВЫДАНЬНЕ
НАРКАМЗЕМУ
БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ



# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ



ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

**№ 2 (8)** | **Люты** | **1930 г.**



Правадыры Чырвонай арміі т. Варашылаў і т. Гамарнік і старшыня СНК БССР т. Галадзед.



Часопіс „Шляхі калектывізацыі“ ад імя дзесяцітысячнай арміі сваіх падпішчыкаў у 12 гадавіну Чырвонай арміі горача яе вітае. Рабоча-сялянская Чырвоная армія за 12 год барацьбы і перамог даказала ўсяму сьвету, што яна ведае, за што змагацца, і кожны, хто захоча парушыць будаўніцтва нашай краіны, атрымае па руках так, як атрымалі кітайскія генэралы і белагвардзейцы.

Няхай жыве Чырвоная армія!

*Рэдакцыя.*

# Чырвоная армія дае спэцыялістых у калгасы.

Беларуская Вайсковая Акруга і Наркамзем БССР цесна працуюць і ўзаемна дапамагаюць у падрыхтоўцы працаўнікоў для калгасаў.

Яны абавязаліся выканаць наступныя галоўныя пункты:

1. Паліткіраўніцтва БВА абавязваецца правесьці ў чырвонаармейскіх часьцях акругі ў пэрыяд часу з 15-га студзеня па дзень звальненьня ў доўгатэрміновы водпуск (да 1 лістапада) падрыхтоўку на курсах 8.000 чал. калгаснага актыву з ліку чырвонаармейцаў і малодшага начскладу, што звальняюцца, у наступнай колькасьці:

| | |
|---|---|
| Арганізатараў-калгасьнікаў (старшынь і членаў праўленьняў саветаў, старшынь і членаў рэвізійных камісій і г. д.) | 1.000 |
| Загадчыкаў гаспадаркай і рахункаводаў | 800 |
| Жывёлаводаў (па буйной раг. жывёле) | 1.000 |
| Кавалёў (якія могуць ладзіць простыя с.-г. прылады) | 700 |
| Тэхнікаў па насенных культурах | 1.000 |
| Трактарыстых | 1.350 |
| Шофэраў | 500 |
| Рабочых па рамонце складанага с.-г. інвэнтару | 300 |
| Майстроў па бэконе | 250 |
| Дзесятнікаў гідра-тэхнічных работ | 500 |
| Электра-манцёраў | 250 |
| Тэхнікаў па ільну і каноплях | 350 |

2. Наркамзем БССР абавязваецца асыгнаваць у распараджэньне Палітківаўніцтва на гэту работу 138.000 рублёў. Дваццаць пяць процантаў зазначанай сумы адпускаецца неадкладна пасьля падпісаньня гэтага дагавору, дваццаць пяць процантаў—да 15-га сакавіка, дваццаць пяць процантаў—да 15-га чэрвеня і дваццаць пяць процантаў—да 15-га жніўня.

3. Ня менш 80 проц. курсантаў павінны быць з акруг і раёнаў БССР. Палітківаўніцтва абавязваецца даць НКЗ БССР не пазьней 1-га красавіка весткі аб тым, у якой акрузе, колькі і якіх сцэцыяльнасьцяй з ліку падрыхтаваных на курсах будзе зволынена. Звольненыя бяруцца на вучот НКЗ БССР і разьмяркоўваюцца адпаведна з іх жаданьнем па раёнах у калектыўныя гаспадаркі.

4. Наркамзем БССР абавязваецца даць дырэктыву сваім мясцовым органам аб абавязковай усямернай дапамозе з іх боку вайсковым часьцям у арганізацыі памянёных курсаў, у прыватнасьці, шляхам вылучэньня выкладчыкаў (за аплату па прафэсыянальных стаўках) з ліку спэцыялістых і шляхам дармовай дачы курсам магчымасьці карыстацца для навучальных мэт вольным ад работ с.-г. інвэнтаром (трактары, складаныя с.-г. машыны і г. д.), навуковымі лябараторыямі і габінэтамі, майстэрнямі, дасьледчымі і паказальнымі станцыямі, бібліятэкамі і інш.

5. Наркамзем БССР абавязваецца з ліку атрымліванай або выдаванай ім масавай літаратуры па сацыялістычным перабудаваньні вёскі—даваць некаторую частку Палітківаўніцтву АБВ для разьмеркаваньня па курсах, якія арганізуюцца.

Старшыня НКЗ БССР **Рачыцкі.**

Прадстаўнік Палітківаўніцтва нач.
агіт.-прападдзелу **М. Субоцкі.**

# Калгасы і веснавая сяўба.

Апошняя дырэктыва Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б аб правядзеньні колектывізацыі ня менш 50% ад усяе зямельнае плошчы БССР да канца гэтага году і ня менш 35% яровага кліну ў час веснавой пасеўнай кампаніі ставіць перад усімі грамадзкімі організацыямі, асабліва перад калгаснай сыстэмай і сыстэмай сельска-гаспадарчай каапэрацыі, задачу, каб надышоўшую веснавую пасеўную кампаніюператварыць у кампанію радыкальнае перабудовы старое вёскі.

Посьпехі сваячасовага севу ў калгасах будуць залежаць, у першую чаргу, ад таго, паскольки арганізована пройдзе праца па мабілізацыі сродкаў вытворчасьці калгаснага і ідучага ў калгасы насельніцтва для мэт веснавой пасеўнай кампаніі. Загэтым калгасная сыстэма павінна прыцягнуць да гэтай справы ўвесь калгасны актыў, усе грамадзкія і каапэрацыйныя арганізацыі, асабліва ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на стварэньне насенных фондаў у колькасьці, патрэбнай для забясьпечаньня ўсяго яравога кліну калгасаў, на далейшае абагуленьне рабочае і прадукцыйнае жывёлы і наогул усіх сродкаў вытворчасьці (машын, прыладаў і г. д.).

Капіталістычныя элемэнты вёскі (кулакі, нэпманы) увесь час вялі і арганізоўвалі адкрытую, упартую барацьбу супроць калгаснага руху пад лёзунгамі: „не хадзеце ў калгас", сапраўджаючы свае выступленьні цэлым шэрагам тэрорыстычных актаў (забойства, падпалы, шкодніцтва). У апошні час кулакі перайшлі да замаскаваных, скрытых форм барацьбы. Кулакі высунулі новы лёзунг: „ідзеце ў калгас бяз сродкаў вытворчасьці" і праявілі выключную актыўнасьць у агітацыі за продаж насельніцтвам, якое ідзе ў калгасы, жывёлы ды іншай маемасьці.

Гаворачы: „прадавайце жывёлу, прадавайце ўсю маемасьць, насеньне і г. д., бо гэта не патрэбна ў калгасе, бо ўсё гэтае ў калгасе дасьць вам савецкая ўлада"—кулакі накіроўваюць сваю праграму на зрыў мерапрыемстваў, намечаных партыяй і ўладай у справе рэконструкцыі жывёлаводзтва і вырашэньня мясной проблемы.

Калгасным, каапэрацыйным і іншым грамадзкім арганізацыям неабходна тэрмінова арганізаваць гэтую барацьбу калгасаў супроць распрадажы і праяданьня жывёлы, барацьбу за падвышэньне жывёлаводзтва і за пераключэньне яго ў абагулены сэктар сельскае гаспадаркі (калгасы), адначасова аказваючы садзейнічаньне захаваньню і падвышэньню жывёлаводзтва ў той частцы адзіночных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якая хоць і не ўвайшла ў калгасы, але прыдзе ў калгасы.

Навакол абагуленьня рабочае і прадукцыйнае жывёлы таксама, як і навакол насенных абагуленых фондаў зараз разгортваецца барацьба паміж перадавою часткаю абагуленага сэктару сельскае гаспадаркі і капіталістычнымі элемэнтамі вёскі з яшчэ большай сілай, чым да гэтае пары. Справа ў тым, што абагуленьне жывёлаводзтва наносіць

рашучы ўдар па кулаку, садзейнічае выкарчоўваньню карэньняў капіталізму.

Зараз патрэбна шырокая па размаху і ахопу бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас праца, пры правядзеньні якой трэба, ня спыняючы працэсаў організацыйнага афармленьня ўноў ствараемых калгасаў, аднначасова павесьці абагуленьне асноўнай масы жывёлы, якая знаходзіцца ў сялянскіх гаспадарках, якія ідуць у калгасы.

Кулак, будучы па-за калгасам, альбо, пралезшы ў калгас, вядзе і будзе весьці з калгасам у той ці іншай форме самую ўпартую, самую жорсткую барацьбу. Паколькі цяпер ужо, у сувязі з вялізарнымі посьпехамі калгаснага будаўніцтва, кулацкая вытворчасьць можа быць заменена буйнай вытворчасьцю калгасаў, зараз неабходна перайсьці ад палітыкі абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулака, як клясы. Выходзячы з задачы калектывізаваць на працягу 2-х год усяе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі Беларусі— студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў аб неабходнасьці „далейшага рашучага наступленьня і выкарчаваньня карэньняў капіталізму ў сельскай гаспадарцы“. У сувязі з гэтым пленум ЦК КП(б)Б прапанаваў „катэгарычна забараніць прыём кулакоў ва ўсе віды калектыўных аб‘яднаньняў і ў месячны тэрмін правесьці ачыстку калгасаў ад кулацкіх і нэпманскіх і варожых элемэнтаў. Пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі выселіць усе кулацкія гаспадаркі за іх кошт з тэрыторыі калгасаў“, а маемасьць іх павінна быць залічана ў непадзельны капітал калгасаў.

Неабходна шырока разгарнуць масавую работу па лепшай арганізацыі працы сярод батрацтва і беднаты; неабходна стварыць батрацкабядняцкія групы ўва ўсіх калгасах раёнаў суцэльнай калектывізацыі і ў тых калгасах, дзе не абагулены сродкі вытворчасьці, павышаючы кіруючую ролю гэтых груп у першапачатковых вытворчых сельска-гаспадарчых коопэратывах, з тым, каб забясьпечыць посьпехі намечаных мерапрыемстваў па правядзеньню веснавой пасеўнай кампаніі.

Падрыхтоўка да веснавой пасеўнай кампаніі для калгасаў ужо пачалася. Не павінен быць згубленым ні адзін дзень, не скарыстаны на хутчэйшую арганізацыю мас вакол пасеўкампаніі, вакол абагуленьня жывёлы, стварэньня насенных фондаў у калгасах і г. д. Ад выкананьня гэтых галоўнейшых задач будзе залежаць і далейшае выкананьне пляну веснавой пасеўнай кампаніі ў калгасах.

У наступным годзе, асабліва ў веснавую пасеўную кампанію, дзякуючы вялізарнаму калгаснаму руху, будзе адчувацца вялікі недахоп у складаных машынах і ў першую чаргу—у трактарох. Ні вытворчасьць нашых заводаў, ні закупка за межамі ня змогуць задаволіць нашых запатрабаваньняў у гэтым напрамку.

Пабудова новых трактарных заводаў і пашырэньне вытворчасьці старых патрабуе ад дзяржавы вялікіх грашовых укладаньняў. Зараз паўстала пытаньне аб тым, каб да гэтай справы шырока прыцягнуць укладаньне сродкаў самога зацікаўленага насельніцтва (калгасаў, с.-г. вытворчых аб‘яднаньняў і бядняцка-серадняцкага сялянства, якое прымае рашэньне аб уваходзе ў калгасы і вытворчыя аб‘яднаньні).

Згодна пастановы СНК СССР новыя машынна-трактарныя станцыі і калёны будуць будавацца толькі пры наяўнасьці ўзносаў калгасамі і іншымі коопэрацыйна-вытворчымі аб‘яднаньнямі ў разьмеры ня менш 25 проц. каштоўнасьці гэтых станцыяў альбо калён.

Чарговасьць прадастаўленьня нам трактараў будзе залежыць ад тэрміну і разьмеру паступленьняў сродкаў ад насельніцтва.

Трэба разгарнуць самую шырокую працу па зборы сродкаў на задаткі для трактароў і набыцьця акцый трактарацэнтру, альбо ўнясеньня ў спэцыяльныя непадзельныя капіталы калгасаў і іншых каапэрацыйных абʼяднаньняў сродкаў на арганізацыю трактарных станцый і калён.

Значную колькасьць трактароў дзяржаве прыходзіцца прывозіць з-за межаў Савецкага Саюзу. Гэтыя самыя трактары можна атрымаць узамен на сыравіну другараднага прызначэньня (косьці, рогі, капыты, рызьзё, конскі волас і інш.), якая патрэбна ў значнай колькасьці некаторым замежным дзяржавам і экспартуецца намі за межы.



Рабочыя на курсах падрыхтоўкі для працы ў калгасах (Менск).

На тэрыторыі кожнага калгасу і вакольных вёсак ёсьць шмат рэчаў, прыгодных для другараднага экспарту.

Усе калгасы павінны зараз-жа, да пачатку веснавой пасеўнай кампаніі, разгарнуць шырокую работу ў справе збору гэтай другараднай сыравіны.

У гэтую веснавую пасеўную кампанію запатрабаваньні раёну суцэльнай калектывізацыі і буйных калгасаў на мэханізацыю працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасьці, на трактары і інвэнтар мэханічнай цягі будуць далёка ня поўнасьцю задаволены. У аснаўным пасеўкампанію мы павінны будзем праводзіць у раёнах суцэльнай калектывізацыі з пераважным і поўным скарыстоўваньнем налічнага коннага інвэнтару і коняй, ях цягавай сілы. Вось чаму пастанова апошняга Пленуму ЦК КП(б)Б аб тэмпе калектывізацыі асабліва падкрэсьлівае „вялікую важнасьць у сучасных умовах у якасьці пераходнай меры—стварэньня ў калгасах машынных баз і зьмешанага тыпу трактарна-конных баз“.

У калгассыстэме машынна-конныя станцыі павінны арганізоўвацца як у буйных калгасах раёнаў суцэльнай калектывізацыі, так і пры куставых абʼяднаньнях калгасаў.

Канцэнтруючы ўвесь сельскагаспадарчы інвэнтар, конную сілу і неабходныя кармовыя запасы, калгасы значна падвышаюць вытворчасьць працы, утаняюць яе і дабіваюцца высокага гаспадарчага і эканомічнага эфэкту.

Неабходна, каб у кожным раёне суцэльнай калектывізацыі былі моцныя машынна-конныя і зьмешаныя трактарна-конныя станцыі, так як у апошнім выпадку конна-сілавая цяга разгрузіць трактары ад дробных работ і павысіць іх нагрузку і прадукцыйнасьць асноўнымі работамі.

Першачарговым і першаступенным мерапрыемствам калгаснай сыстэмы зьяўляецца падрыхтоўка тысяч і тысяч новых арганізатараў бурна растучага калгаснага руху. Усякае спазьненьне ў гэтым напрамку можа вельмі цяжка адбіцца на працы па веснавой пасеўнай кампаніі наогул.

Каб забясьпечыць пасьпяховасьць калгаснага будаўніцтва, што магчыма пры ўмовах непасрэднага кіраўніцтва з боку партыі і пралетарыяту, да пачатку веснавой пасеўнай кампаніі накіроўваецца 600 рабочых на сталую працу ў калгасы. Апроч таго, згодна пастановы Пленуму ЦК КП(б)Б, на працягу гэтага году будуць яшчэ пасланы ў калгасы дадаткова 500 рабочых і 200 сяброў партыі адказных цэнтральных і акруговых працаўнікоў.

Акркалгассаюзам і іншым каапэрацыйным і грамадзкім арганізацыям трэба безадкладна правесьці шырокую работу сярод калгасаў па стварэньню належных умоў для пасылаемых на калгасную працу рабочых (кватэрнае пытаньне і г. д.).

Усе рабочыя да пасылкі іх у калгасы прапушчаюцца праз спэцыяльныя каротка-тэрміновыя курсы па калгаснаму будаўніцтву.

Ажыцьцяўленьне тых вялізарных задач па сацыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, якія пастаўлены партыяй і савецкай уладай перад калгасным будаўніцтвам, асабліва ў час правядзеньня сельскагаспадарчай кампаніі, магчыма толькі пры ўжываньні з боку шырокіх мас калгасьнікаў мэтадаў сацыялістычнага спаборніцтва. Калгасьнікі павінны пасьледваць прыкладу гарадзкіх рабочых і шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва, арганізоўваючы ўдарныя брыгады па ўзьняцьцю вытворчасьці працы, поўнаму і найлепшаму ажыцьцяўленьню задач сельскагаспадарчай кампаніі і г. д. Трэба, каб кожны калгас на Беларусі быў захоплен сацыялістычным спаборніцтвам.

Усе калгасы павінны разьвіць баявыя тэмпы работы па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, шырока арганізаваць работу вытворчых нарад калгасьнікаў, перавадзіць усю працу калгасаў на рэйкі ўдарнасьці і ўзорнасьці.

Але для правядзеньня ў жыцьцё ўсяго гэтага трэба шырока арганізаваць дапамогу калгасам з боку гарадзкіх арганізацый, у першую чаргу, у правядзеньні пасеўнай кампаніі. Трэба шырока выкарыстаць практыку пасылкі ў калгасы рабочых брыгад, дапамогу па лініі шэфтаварыстваў і г. д. З боку с/саветаў і РВК неабходна ўстанавіць сталае штодзённае кіраўніцтва падрыхтоўкай і правядзеньнем пасеўнай кампаніі ў калгасах. Таксама неабходна ўзьняць ініцыятыву і забясьпечыць шчырачэзны ўдзел у правядзеньні пасеўкампаніі з боку камсамолу і дэлегацкіх сходаў жанчын.

**Сьмірноў.**

---

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ НА ПЕРШЫ ПЛЯН



Цэнтральная малочная ў Менску. Агульны выгляд.

## Жывёлагадоўля і зоовэтмінімум.

У нас ня так добра абстаіць справа з жывёлагадоўляй: рост спажываньня мяса і малака як сярод вясковага насельніцтва, так і насельніцтва гарадоў патрабуе ў сучасны момант ад нашай жывёлагадоўлі значнай прадукцыі. Таму мы павінны паставіць справу з жывёлагадоўляй так, каб яна змагла больш даваць прадуктаў на рынак. Для БССР жывёлагадоўля мае асаблівае значэньне. Беларусь нават да. вайны вывазіла за межы прадуктаў жывёлагадоўлі на суму каля мільёну руб., а цяпер таксама ў нашай гаспадарцы галоўнымі прадуктамі для продажу зьяўляюцца прадукты жывёлагадоўлі. Напрыклад, птушкаводзтва быццам няпрыкметная галіна ў гаспадарцы, але-ж яна ў БССР дае некалькі дзесяткаў вагонаў яечнага экспарту.

Жывёлагадоўля БССР дае на рынак значна большую частку сваіх прадуктаў (мае большую таварную масу), чым расьлінаводзтва, як гэта можна бачыць з такіх даных:

| Галіны гаспадаркі | Валавы збор | | | Таварная маса | | | Таварная маса ў % ад валавога збору | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| | У тысячах рублёў | | | | | | | | |
| Расьлінаводзтва . . . | 360 | 413 | 440 | 21.3 | 15,9 | 18,9 | 5,9 | 3,8 | 4,2 |
| Жывёлагадоўля . . . | 236 | 264 | 305 | 38,6 | 43,7 | 48,4 | 16.3 | 16,5 | 15,8 |

Гэта кажа аб тым, што БССР мае шэраг спрыяючых умоў для разьвіцьця жывёлагадоўлі: добрыя кліматычныя ўмовы, нядрэнныя

сенажаці ў шмат якіх мясцох БССР, магчымасьць мець добрыя выпасы для жывёлы, блізасьць замежных рынкаў для збыту прадуктаў (Нямеччына, Англія)—усё гэта такія факты, якія выклікаюць разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі ў бок жывёлагадоўлі.

Улада БССР, вядома, прымае шэраг захадаў для разьвіцьця жывёлагадоўлі, укладае шмат сродкаў, каб узьняць гэтую важную галіну народнай гаспадаркі.

Як на мерапрыемствы па грунтоўнай племяннной працы сярод пагалоўя зварачаем увагу на колькасьць спэцыяльных племгаспадарак і рост злучпунктаў з ухваленымі вытворнікамі па гадох:

| | БЫЛО | | Будзе ў 1930 г. |
|---|---|---|---|
| | 1928 г. | 1929 г. | |
| **Племгаспадарак** | | | |
| З буйнай рагатай жывёлай | 3 | 3 | 7 |
| З сьвіньнямі | 7 | 16 | 18 |
| З птушкамі | 1 | 2 | 3 |
| **Злучпунктаў** | | | |
| З быкамі | 1481 | 2480 | 6200 |
| З кнырамі | 614 | 1540 | 3860 |

З гэтых лічбаў можна ўпэўніцца ў тым, што ў бліжэйшы час мы зможам атрымаць значную колькасьць племматар'ялу для палепшаньня мясцовага пагалоўя, злучпункты з ухваленымі вытворнікамі, могуць абслужыць да 15—25% матак.

За апошні час была шырока разгорнута праца па мэтызацыі мясцовай сьвіньні з сьвіньнёй белай ангельскай пароды. У сучасны момант мы маем дастатковую колькасьць уласнага племматар'ялу, і завоз чыстапародных сьвіней амаль што не патрэбен.

У 1930 годзе мяркуецца спыніць завоз і племяннной буйнай рагатай жывёлы, што тлумачыцца, праўда, ня тым, што ў БССР ёсьць дастатковая колькасьць чыстапародных груп жывёлы для палепшаньня мясцовай, а тым, што ў наступным годзе праэктуецца распачаць сталую працу па палепшаньню рагатай жывёлы, скарыстоўваючы той лепшы матар'ял, які ёсьць у БССР.

У сучасны момант набываюць асаблівую значнасьць мерапрыемствы па рэканструкцыі жывёлагадоўлі. У гэтым пытаньні краіна ідзе па таму шляху, што і ў галіне расьлінаводзтва: пабудова буйных жывёлаводных гаспадарак, шляхам аб'яднаньня дробных гаспадарак, машынізацыя, абслугоўваньне жывёлы згодна апошніх дасягненьняў тэхнікі, рацыяналізацыя ўтрыманьня і кармленьня. Толькі буйныя жывёлаводныя гаспадаркі маюць усе даныя для належнага разьвіцьця і павялічэньня вытворчасьці мясных і малочных прадуктаў.

У чым-жа пераважнасьць буйнай жывёлаводнай гаспадаркі над дробнымі? Шмат ёсьць адказаў на гэта запытаньне, але самыя грунтоўныя з іх наступныя: а) дробная гаспадарка ня можа вырашыць кармовага пытаньня, б) ня можа наладзіць адпаведнай тэхнікі абслугоў-

ваньня жывёлы, в) ня можа даць адпаведнай прадукцыі на рынак.

На колькі выгадней вядзеньне буйнае гаспадаркі, можна бачыць з наступнага:

| | | |
|---|---|---|
| Гадавая выручка ад продажу сельска-гаспадарчых прадуктаў на 1 с.-г. рабочага ў 1929-30 г. | па БССР . . . . . | 34,4 руб. (галоўным чынам, на інд. гасп.) |
| | па сталых калгасах . | 119,0 руб. |
| | па саўгасах . . . . | 410,0 руб. |

У 1929-30 г. мяркуецца арганізаваць 116 гаспадарак жывёлаводнага напрамку. Частка з іх будуецца з мэтай арганізацыі буйных ма-



Цэнтральная малочная ў Менску. Аўтаматычная налiўка малака.

лочных фэрм для здавальненьня гарадзкога насельніцтва малаком. Фэрмы разьлічаны на 1.000 галоў рагатай жывёлы кожная. Мяркуецца арганізацыя шэрагу адкормачных пунктаў па саўгасах і калгасах для здавальненьня насельніцтва мяснымі прадуктамі.

Зараз ставіцца пытаньне аб арганізацыі буйных жывёлаводных гаспадарак і пабудове добра абсталяваных заводаў па перапрацоўцы прадуктаў жывёлагадоўлі. Ідзе ўзбуйненьне існуючых масла-сырзаводаў, а ўвясну гэтага году ў Воршы скончана фабрыка па перапрацоўцы туш маладых сьвіней на бэкон. Фабрыка патрабуе для поўнай нагрузкі да 75.000 штук сьвіней.

У працу перабудовы жывёлагадоўлі павінна быць уцягнута шырокая бядняцка-серадняцкая частка вёскі са сваёй ініцыятывай, са сваімі сродкамі. Улічваючы гэта, Савет Народных Камісараў БССР 17-га сьнежня 1929 году вынес пастанову аб зоовэтмінімуме. Мэта пастановы—абавязаць як бядняцка-серадняцкія, так і савецкія і калектыўныя гаспадаркі, правесьці шэраг прасьцейшых мерапрыемстваў па лініі жывёлагадоўлі, скарыстоўваючы, галоўным чынам, уласныя сродкі. Сутнасьць пастановы наступная:

А. Па вэтэрынарыі і зоогігіене: 1) *арганізаваць сталыя вадапоі.* Вядома, калі жывёла поіцца ў забруджаных рэчках, балотах, вазёрах, дык гэта можа быць прычынай шэрагу хвароб жывёлы; трэба арганізаваць вадапой у калодзежы або ў рэчцы, з чыстым пясчаным дном і хутка цякучай вадой. Каля месца вадапою нельга выкідаць паўшую скаціну і нічога іншага, што-б магло быць прычынай заразы. 2) *Мець лекавыя сродкі для першай дапамогі* зусім неабходна як для буйных гаспадарак, так і для асобных вёсак. Прыводзім ніжэй набор аптэчкі, прызначанай для саўгасаў, калгасаў, сьвінзаводаў, адкормачных пунктаў і іншых гаспадарак.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Настойка ёду | 100,0 гр. | 13. | Квасцы ў парашку | 100 гр. |
| 2. | Крэаліны | 1 кгр. | 14. | Дубовая кара ў парашку | 500 „ |
| 3. | Глаўбэравай солі | 8 „ | 15. | Нафталін | 400 „ |
| 4. | Камфорнае масла | 200 гр. | 16. | Дзёгаць ачышчаны | 200 „ |
| 5. | Шкіпінар ачышчаны | 200 „ | 17. | Вата гіграскапічная | 200 „ |
| 6. | Борная кіслата | 100 „ | 18. | Бінтоў розных | 5 шт. |
| 7. | Зялёнае мыла | 1 кгр. | 19. | Тэрмомэтраў | 2 „ |
| 8. | Нашатырны сьпірытус | 500 гр. | 20. | Спрынцоўкі гумовыя | 2 „ *) |
| 9. | Ачышчаная сода | 500 „ | 21. | Кружка для клізм з прыборам | 1 „ |
| 10. | Марганцава-кіслы калі | 25 „ | 22. | Траакар для буйнай рагатай жывёлы | 1 „ |
| 11. | Цынкавая мазь | 50 „ | | | |
| 12. | Вазэлін | 500 гр. | | | |

Агульная каштоўнасьць аптэчкі каля 30 рублёў.

3) *Аб ізаляваньні хворай жывёлы,* гэта значыць вылучаць са стада ўсіх хворых заразьлівымі хваробамі. Трэба мець, як правіла, што калі жывёла захварэла якой-небудзь невядомай для гаспадара хваробай, зараз-жа аддзяліць яе, паставіўшы ў іншае памяшканьне; акрамя таго, хутка патурбавацца, каб яна была агледжана вэтурачом.

4) *Пабудаваць такія прыбіральні (адхожыя), каб сьвіньні не маглі заразіцца крупчаком* **).

Б. Па палепшаньню якасьці сельска-гаспадарчай жывёлы:

1) *Пакладаць нягодных вытворнікаў.* Вядома, што ад кепскага быка, жарабка, кныра і г. д. нельга чакаць добрага прыплоду, а таму і ня сьлед пакідаць такіх вытворнікаў на племя. 2) *Пакідаць на племя здаровых цёлак ад кароў з удоем ня менш 100 пуд. у год.* Нізкаўдойлівая карова стратна для гаспадаркі і гадаваць цялят ад такіх кароў ня трэба.

В. Па пытаньню аб палепшаньні кармленьня жывёлы:

1) *Арганізаваць штучныя выпасы.* Пасьба—вельмі важная справа ў жывёлагадоўлі; ад якасьці пасьбы залежыць прыбытковасьць малочнай гаспадаркі, бо пры вясновым ацёле кароў большыя ўдоі бываюць улетку. Арганізацыя штучных выпасаў, асабліва ўсёй грамадой, справа няцяжкая: трэба адвесьці належны вучастак зямлі і выканаць па ўказаньню аграномa некаторую працу і справа з выпасам праз год-два будзе наладжана. Можна ўключыць штучны выпас, як асобны клін у севазварот. У кожным асобным выпадку можна паступіць па рознаму і за парадамі наконт вырашэньня гэтага пытаньня трэба зьвяртацца да аграпэрсаналу.

*) 1 у 100 кб. і 1 ў літр.

**) Гл. артыкул у № 1(7) часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ — „Сьцеражыся трыхінозу“.

2) *Ужываньне сакавітых кармоў пры карmленьні скаціны ўзімку.* Сакавітыя кармы павялічваюць дачу малака і карысны ў рацыёне кожнага віду жывёлы. Пад сакавітымі кармамі разумеюць кораньплоды, бульбу і сілос (квашаны корм). Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на пабудову сілосных установак, навучыцца, як іх будаваць, як закладваць сілосную масу, бо інакш нельга чакаць добрых вынікаў ад гэтай справы.

Г. Па утрыманьню жывёлы 1) *Уцяпленьне і абсталяваньне хлявоў.* Трэба ведаць, што халодныя хлявы і адсутнасьць кармушак зьвязаны са значнымі перавыдаткамі корму: па некаторых даных гэтыя перавыдаткі корму даходзяць да 25—30 пуд. сена на галаву дарослае жывёлы за зіму.

2) *Торф, як подсьцілка,* ва ўмовах БССР павінен мець вялікае значэньне, бо ён ня толькі павялічвае колькасьць і якасьць гною, але і паляпшае ўтрыманьне жывёлы ў стойлавы пэрыяд з чыста санітарнага боку.

Такім чынам, у пастанове Савету Народных Камісараў значыцца шэраг, па сутнасьці, прасьцейшых мерапрыемстваў для правядзеньня гаспадаркамі ў абавязковым парадку.

Будзе ўсё залежаць ад таго, наколькі шырокія колы бядняцка-серадняцкага сялянства адгукнуцца на заклік ураду падняць нашу жывёлагадоўлю.

Для правядзеньня намечаных мерапрыемстваў у жыцьцё даем схэму арганізацыі самой працы:

*Неабходна пры кожным калгасе або паселішчы абраць адказную асобу—зоовэтупаўнаважанага.* Неабходна абраць такую асобу з бядняцка-серадняцкага актыву калгасу ці паселішча, якая-б была здольна кіраваць і кантраляваць правядзеньне намечаных мерапрыемстваў. На абавязкі зоовэтупаўнаважанага ўскладаецца:

1) Скласьці плян працы па сэзонах (што рабіць узімку, вясной і г. д.), плян павінен быць абгаворан і зацьверджан на сходзе.

2) Будзіць і завастраць думку сялян вакол пытаньняў аб палепшаньні жывёлагадоўлі, трэба забясьпечыць хаты-чытальні адпаведнай літаратурай, запрашаць агрaпэрсонал для гутарак і лекцый па пытаньнях жывёлагадоўлі.

3) Арганізаваць актыўныя групы з моладзі і актыўных гаспадароў для дапамогі па правядзеньню розных мерапрыемстваў.

4) Разам з правядзеньнем мерапрыемстваў па зоовэтмінімуму, зоовэтупаўнаважаны павінен сачыць за тым, каб без яго ведама ні адна добрая жывёла не папала пад нож. Калі ў гаспадарчых умовах неабходна прадаць жывёлу, дык трэба патурбавацца, каб яна папала ў саўгас ці калгас.

5) Арганізаваць актыў для барацьбы з заможнікамі, якія агітуюць супроць разгорнутай працы па перабудове нашай жывёлагадоўлі і наогул сельскае гаспадаркі.

6) Разам з батрацка-бядняцкім актывам у раёнах суцэльнай калектывізацыі хуткім тэмпам адабраць у кулацтва жывёлу, каб яна ня была збыта пад нож, не забываючы і пра дробную жывёлагадоўлю.

7) Самую ўпартую працу правесьці па абагуленьню жывёлы ва ўсіх калгасах, каб на грунце аграмаджанай жывёлагадоўлі павялічыць на многа раз яе прадукцыю.

**В. М. Сьвіршчэўскі.**

# Жывёлагадоўля адстае.

(*Аршанская акруга*).

Сур'ёзнасьць пытаньня разьвіцьця жывёлагадоўлі яшчэ і да гэтага часу не пастаўлена ў цэнтры працы земорганаў, каапэрацыйных арганізацый, спэцыялістых сельскае гаспадаркі і савецкае грамадзкасьці.

Недарод зернявых, траў і інш. культур за апошнія два гады, пры недастатковым завозе канцэнтраваных кармоў з-за меж акругі, выклікаў скарачэньне стада маладняку.

Скарачэньне стада тлумачыцца яшчэ і тым, што адсутнічаў сталы плян мерапрыемстваў па разьвіцьцю жывёлагадоўлі ў акрузе; поўнае адсутнічаньне вытворчай працы з боку каапэрацыйных арганізацый, недастатковае асыгнаваньне на гэтае мерапрыемства крэдытаў як па дзяржаўнаму, а таксама і мясцоваму бюджэтах, а ў некаторых выпадках скарачэньне і расходваньне не па прызначэньню саўгасамі і калгасамі гэтых сродкаў, адсутнасьць працы па племяннной справе, адсутнасьць мерапрыемстваў па будаўніцтву вакол гораду буйных малочна-мясных фэрм і бэконных множнікаў па масавай вытворчасьці малочных і мясных продуктаў спажываньня; недахоп спэцыялістых па жывёлаводзтву ў зямельных органах і с.-г. каапэрацыі; недастаковая ўвага стварэньню кармавой базы (арганізацыя сіласаваньня кармоў, разьвіцьцё караньплодаў, пашырэньне засеву траў, палепшаньне сенажацяй, утылізацыя адкідаў гарадзкіх прадпрыемстваў і г. д.) у выніку склалася такое становішча жывёлагадоўлі, пры якім на працягу 1928-29 г. па акрузе адбылося зьмяншэньне жывёлы: буйнае рагатае на 2,29 проц. і сьвіней на 15,60 проц.

Вось усе тыя ўмовы, якія далі свой адбітак і зрабілі пэўны ўплыў на скарачэньне стада жывёлы па акрузе.

Улічваючы сучаснае становішча жывёлаводзтва акругі і неабходнасьць безадкладнага задавальненьня ўзрастаючых патрэб народнае гаспадаркі ў сыравіне, прадуктах спажываньня і ў мэтах узмацненьня непарыўнай сувязі жывёлаводзтва з уздымам вытворчасьці сельскае гаспадаркі і калектывізацыі апошняе,—неабходна будзе зрабіць наступнае: Акрземаддзел, Акркалгассаюз і Акрмалжывёлсаюз, на падставе кантрольных лічбаў пяцігадовага пляну, павінны будуць усямерна фарсаваць працу па разьвіцьцю жывёлаводзтва з такім разьлікам, каб на працягу 1930 г. забясьпечыць павялічэньне стада па акрузе, супроць мінулага году, па буйнай рагатай жывёле ня менш як на 18,6 проц. і сьвінаводзтву на 16,8 проц.

Белсельтрэст з свайго боку ўжо вызначыў арганізацыю малочнае фэрмы ў акрузе (у 1930 г.) на 340 галоў.

Прыдзецца Акрземаддзелу сумесна з Акркалгассаюзам прыняць адпаведныя захады да таго, каб на працягу двух гадоў давесьці стада буйнае рагатае жывёлы ў існуючых саўгасах і калгасах да нормы арганізацыйна-вытворчых плянаў.

Неабходна наглядаць за выкананьнем дырэктыў ураду наконт забароны ўбою жывёлы як па саўгасах, так і па калгасах, увёўшы абавязковы зоотэхнічны нагляд па ўсіх разьніцах і ўсю небракаваную, племянную і палепшаную жывёлу зьнімаць і накіроўваць для папаўненьня стад саўгасаў і калгасаў.

Племянную жывёлу, якая маецца ў раёнах, трэба вызначыць для арганізацыі буйных племянных гаспадарак. У мэтах-жа забесьпячэньня быкамі-вытворнікамі акругі ў злучкампанію 1930 г., неабходна прыняць меры да таго, каб кожны саўгас меў ня менш двух быкоў, а больш моцны калгас аднаго быка для кароў навакольнага насельніцтва; вёска ў 30 і больш двароў абавязкова павінна мець аднаго грамадзкага быка. Малочна-жывёлаводчая каапэрацыя ўжо атрымала ад адпаведных органаў заданьне на арганізацыю 120 злучных пунктаў з быкамі для кароў каапэраванага насельніцтва.

Пашырэньне кармовай базы патрабуе наступных канкрэтных мера-прыемстваў: палепшаньня сенажацяй на плошчы ня менш як 4500 *га*, пабудовы сілосных вежаў і ям у саўгасах, калгасах, мал.-жыв. таварыствах. Пашырэньне засеву кармавых траў супроць мінулага году на 24,4 проц., караньплодаў на 74 проц. і арганізацыі выпасаў у калгасах на плошчы 200 *га* і калектыўных выпасаў у малочных таварыствах да 750 *га*.

Днепрасаюз, ЦРК і аддзяленьне Белмясгандлю павінны арганізаваць утылізацыю адкідаў боень, гарадзкіх сталовак, хлебазаводаў, млыноў і бровараў, прыняўшы крокі да арганізацыі буйных адкормачных пунктаў сьвіней і кароў па ўсёй акрузе і асабліва ў горадзе.

Неабходна прыняць усе меры да таго, каб да канца пяцігодкі аднавіць усё сьвіное стада за лік палепшаных хутка-сьпелых парод, праз організацыю шырокай сеткі сьвінаводаў, племсьвінрасаднікаў і злучпунктаў.

Павінна быць больш шырэй разгорнута праца і па кантрактацыі бэконных сьвіней з такім разьлікам, каб у бягучым 1930 годзе закантрактаваць ня менш як 20.000 шт., забясьпечыўшы кантрактоўшчыкаў канцэнтраванымі кармамі, уцягваючы ў кантрактацыю ў першую чаргу саўгасы і калгасы.

У мэтах-жа складаньня больш спрыяючых умоў для разьвіцьця сьвінагадоўлі ў калгасах—неабходна рашуча дабівацца абагульваньня ўсяе жывёлы ва ўсіх калгасах акругі.

**Сяргей Лодысеў.**

---

# Нашлі кармоў на 10 кароў.

У мінулым годзе арцель „ОРТ", Полацкай акругі, пабудавала сілосную яму. Яма мае ў дыямэтры $3^1/_2$ мэтра і такую-ж глыбіню, прычым адзін мэтр займае надземная частка, бо блізка падыходзіць грунтавая вада. Сіласавалі ў арцелі канюшынную атаву (якую рэдка ўдаецца ў нас сабраць сухой), розныя неядомыя жывёлай травы,—бацьвіньне. Апрача таго засеялі $^1/_{17}$ *га* сланэчніку, які нам даў 75 цэнтн. зяляніны, якое пашло ў сілос, такім чынам, мы набралі каля 40 тон сілоснага корму. Апошняе дае нам магчымасьць пракарміць яшчэ 10 галоў таннымі кармамі.

Яма нам каштавала каля 500 р. Матар'ялам для пабудовы служыла цэгла з цэмантовай атынкоўкай. Унізе яму будавалі з 2 цэглаў на вышыню каля 80 сантымэтраў. На вышыню ў 1 мэтр далі 1,5 цэглы, а далей на 1 цэглу таўшчыні. Для рэзкі прыстасавалі ручную сячкарню (Ленца) шляхам прымацаваньня шарніру да восі каляса нажовага

апарату і прыводзілі ў рух конным прыводам. Пасьля разгрузкі сечку добра трамбавалі і нарэшце атрымаўся добры сілас. Зараз можна проста сказаць: нашлі харчоў на пракорм 10 кароў. У далейшым арцель ставіць пытаньне аб пабудове сілоснай вежы для сіласаваньня



Каровы яўрэйскага сел.-гасп. тэхнікуму (Курасоўшчына).

прыкладна 160—190 тон корму. Мы на практыцы ўпэўніліся, што толькі шляхам сіласаваньня магчыма добра паставіць малочнае жывёлаводзтва, патаняючы сабекошт прадукцыі. Мы раім усім калгасам перайсьці на сіласаваньне кармоў. Справа гэта даволі простая і ўвесь сакрэт зьяўляецца ў тым, каб сілосная ўстаноўка была непранікальная для вады і паветра, сечку трэба добра ўтаптаць, а яму пры запаўненьні замазаць глінай прыкладна на 30—40 сант. З. Г.

## Кармленьне завадзкой вадаплаваючай птушкі і догляд за ёю.

Гусі ўсё лета і да самай глыбокай восені жывяцца, галоўным чынам, на пашы, па лугох, балотах і водных абшарах, паядаючы траву і розных дробных казюлек. У тым выпадку, калі гусі на пашы ня могуць пад'есьці, неабходна падкармліваць іх зернем. Узімку гусям трэба даваць зерне ў цэлым, альбо ў размоланым выглядзе. Для таго, каб падтрымаць належную жыцьцядзейнасьць арганізму, карысна да зярновага корму дабаўляць зялёны. Ён даецца ў выглядзе або дробна парэзанага канюшыннага сена, або ў выглядзе рэзаных кораньплодаў з прымешкай да зернавога корму. Калі птушка да сырога корму ня прывучана, дык неабходна гэты корм даваць вараным. Корміцца птушка ня больш двух разоў у суткі.

З тэй прычыны, што дача зернавога корму выклікае ў гусей непажаданую тлустасьць, трэба прымешваць зялёную расьлінную спажыву ў корм племянной птушцы, асабліва ў зімовы пэрыяд.

Качкам неабходна дабаўляць які-небудзь жывёльны корм, напр., мясныя адкіды, сыраватку і інш., такі самы жывёльны корм магчыма дабаўляць і гусям перад веснавой кладкай яек, бо гэты корм спрыяе носкасьці.

Узімку вадаплаваючай птушцы неабходна дабаўляць да корму, або даваць у асобнай пасудзіне буйны пясок, які зьяўляецца сродкам правільнагаператраўліваньня ежы.

Гусі, як вядома, зьяўляюцца вельмі моцнай птушкай і не баяцца заразьлівых хвароб, а таму страта сярод маладых і дарослых гусей бывае вельмі малая. Але іншы раз сярод вадаплаваючай птушкі бывае



Правільнае паеньне птушак.

павальны паморак ад заразьлівых хвароб, з якіх найбольш частай зьяўляецца мыт. Ён бывае ад няправільнай дачы корму або ад стаячай, гнілой вады. Як толькі будзе адхілена прычына, выклікаўшая хваробу, яна сама сабой праходзіць. Пры паморку на птушку неабходны рашучыя меры для яго зьнішчэньня.

Калі хворыя гусі хістаюцца пры хадзьбе і ў іх зьяўляюцца канвульсія шыі, цяжкае дыханьне, адсутнасьць апэтыту—тут мы маем справу з пошаснай хваробай, якая нярэдка, асабліва пры вялікім згуртаваньні гусей, выклікае значную сьмяротнасьць. Лячэньне тут не дапаможа, неабходна захварэўшую птушку адлучыць, забіць і закапаць, а здаровую перавесьці ў іншае месца, заражонае месца перааараць і зрабіць дэзынфэкцыю.

Калі паблізу ёсьць вэтдапамога, дык неабходна для высьвятленьня хваробы, даставіць туды захварэўшую птушку. Трэба заўважыць, што чыстая вада і чыстата кармушак і паілак зьяўляюцца найлепшай гарантыяй супроць хваробы.

М. Малыхін.

# За ўцягваньне беднаты і батрацтва ў сыстэму малжывёлкаапэрацыі.

Белмалжывёлсаюз прыступае да праверкі працы з беднатою і батрацтвам па сыстэме малжывёлгадоўчай каапэрацыі БССР. Асноўная мэта гэтае праверкі—выявіць выканананьне акруговымі саюзамі і нізоў-

камі тых заданьняў па каапэрваньню беднаты, якія ў свой час даваліся Асобная ўвага пры праверцы будзе зьвернута на прычыны невыкананьня гэтых заданьняў з тым, каб на месцы зьнішчыць тормазы, якія перашкаджалі іх ажыцьцяўленьню. Зусім ня трэба скрываць, што да гэтага часу пастаноўка працы, інструкцыі па разьмеркаваньні кармоў і г. д. ня зусім спрыялі значнаму каапэрваньню беднаты і батрацтва ў т-вах. Мяшала, галоўным чынам, тое, што ў значнай колькасьці т-ваў кіраўніцтва знаходзілася ў руках больш заможных, і вось, асноўная задача—праз сходы беднаты, выявіць клясавую сутнасьць т-ваў і зрабіць належныя арганізацыйныя вывады, не астанаўліваючыся перад пераабраньнем кіруючых органаў і, як правіла, выключэньне кулакоў з таварыстваў.

Трэба сказаць, што да гэтага часу большасьць з т-ваў незнаёмы з апошнімі пастановамі ўраду аб мерапрыемствах па ліквідацыі кулацтва як клясы. Пры правядзеньні абсьледваньня неабходна будзе гэтую працу праводзіць рашуча. Усіх тых кулакоў, якія падбухторваюць бядняцка-серадняцкую частку сялянства да зьнішчэньня жывёлы, разбазарваньня маемасьці і г. д.—трэба будзе ня толькі выключаць з т-ваў, але адначасова і не застанаўлівацца перад канфіскацыяй усёй іх маёмасьці і перадачы яе ў калгас. Бязумоўна, бедната тады праявіць сваю актыўнасьць і дапаможа хутчэйшаму правядзеньню мерапрыемстваў па зьнішчэньню кулацтва як клясы. Пры абсьледваньні неабходна будзе ўсе тыя фонды каапэраваньня беднаты, якія на сучасны момант не скарыстаны, зараз-жа скарыстаць, не абмяжоўваючыся прапановамі. Трэба будзе праверыць, як ідзе вылучэньне беднякоў і батракоў на кіруючую працу ў т-вах і як бедната і батрацтва праводзяць свае пастановы праз агульныя сходы пайнікаў. Як абмяркоўвалася пытаньне аб ператварэньні т-ва ў калгас, якія групы т-ва гэтаму працівадзейнічалі і якія канкрэтныя мерапрыемствы прымаліся пры дапамозе беднаты дзеля аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці сяброў т-ва.

На канкрэтных прыкладах (атрыманьне крэдытаў, разьмеркаваньне кармоў, агра-вытворчая дапамога і г. д.) можна будзе даказаць бядняцка-серадняцкай частцы, наколькі няклясава працавала большасьць т-ваў і што пагэтаму неабходна зрабіць рашучы пералом.

Бязумоўна, што, паколькі Белмалжывёлсаюз зможа сваім апаратам абсьледваць ня больш 3—4 акрсаюзаў і ня больш 30—40 нізовак, трэба, каб для выяўленьня працы т-ваў сярод беднаты і батрацтва была прыцягнута і працоўная грамадзкасьць гораду і вёскі. У Менску, напрыклад, ужо прыцягнута для абсьледваньня рабочая брыгада абутковай фабрыкі, якая прымацована да с.-г. каапэрацыі. Неабходна, каб на мясцох таксама былі прыцягнуты брыгады з раённых працаўнікоў і з самой вясковай беднаты і батрацтва з тым, каб рашуча перабудаваць працу т-ваў у клясавым напрамку і гэтым спрыяць хутчэйшай калектывізацыі.

Адначасова неабходна, каб прымалі ўдзел у гэтым абсьледваньні рабкоры і селькоры. Показам, канкрэтна, прыкладам добрай альбо дрэннай працы т-ваў у галіне працы з беднатою яны дапамогуць рашуча выправіць маючыся недахопы.

Гэтая праца вельмі важная і трэба, каб вынікі яе зьявіліся гарантыяй, што малжывёлкаапэрацыя, а ў бліжэйшы час і малжывёлкалгассыстэма будуць працаваць у напрамку ажыцьцяўленьня асноўных дырэктыў партыі і ўлады.

З. Левін.

---

# Пад пагрозай зрыву.

Кантрактацыя малака зьяўляецца аднэй з асноных крыніц для снабжэньня рабочых цэнтраў малочнымі прадуктамі. Таму пастанова ЭКАНА, якая была выдадзена ў сьнежні месяцы, ставіла рашуча пытаньне перад Малжывёлкаапэрацыяй і мясцовымі органамі аб сканчэньні працы па кантрактацыі да 1 лютага. Аднак, праца па кантрактацыі праводзіцца вельмі марудна. Да гэтага часу няма зьвестак, колькі-ж закантрактована. Некаторыя РВК, як, напрыклад, Заслаўскі, Менскай акр. лічаць працу па кантрактацыі шкодніцтвам, бо гэта як быццам спыняе калектывізацыю. Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што мясцовыя працаўнікі не патурбаваліся паглядзець пастанову ЭКАНА і выдадзеную інструкцыю, бо калі-б яны добра разабраліся, дык згадзіліся-б з тым, што кантрактацыя малака, наадварот, спрыяе калектывізацыі. Наогул работнікі месц не ахвотна бяруцца за гэтую працу. Няма належнай зацікаўленасьці і з боку прафэсыйных арганізацый, якія часамі цяжкія на пад'ём у сэнсе мабілізацыі рабочае ўвагі на правядзеньне кантрактацыі. Сыстэма Малжывёлкаапэрацыі таксама нерашуча бярэцца за гэтую справу. Маюцца выпадкі, калі, дзякуючы непадрыхтаванасьці, неправядзеньня папярэдніх сходаў беднаты, кантракцыйныя дагаворы не заключаліся. Характэрна, што ў даным выпадку заможныя галасавалі за кантрактацыю, у той час, калі падбухтораная кулацтвам беднята і маламоцнае серадняцтва галасавалі супроць (Самахвавіцкі раён).

Ясна, што гэта праца павінна праводзіцца выключна праз вясковую беднату. Трэба весьці вялікую растлумачальную працу з тым, каб даказаць, што сучаснае становішча патрабуе, каб усе лішкі малака здаваліся для снабжэньня рабочых цэнтраў. Трэба давесьці, што ў той час, калі селянін атрымоўвае па цьвёрдай цане ўсякія тавары, ён таксама павінен па цьвёрдай цане здаваць свае лішкі для снабжэньня таго рабочага, які займаецца вырабам гэтых тавараў. Бязумоўна, нельга ставіць пытаньне ў адміністрацыйным парадку, што вось маецца пастанова і без усялякіх разгавораў здавай. Кантрактацыя прадугледжвае дагаворнае абавязацельства абодвых бакоў як Малжывёлкаапэрацыі, якая павінна правесьці шэраг агравытворчых мерапрыёмстваў, так і індывідуальных гаспадарак (бядняцка-серадняцкіх). У адносінах да кулацкіх гаспадарак збор лішкаў малака праводзіцца ў прымусовым парадку і таму кулака нават і ня трэба дапускаць на гэтыя сходы. Ён павінен здаваць свае лішкі і без кантрактацыі.

Калі маюцца нейкія недарэчнасьці пры кантрактацыі ў індывідуальным сэктары, дык калгасы павінны ў абавязковым парадку ўсе свае лішкі здаваць. Тыя калгасы, якія адмаўляюцца ад гэтага, трэба прымушаць у абавязковым парадку.

Неабходзен рашучы пералом у гэтым напрамку. Увага ўсёй грамадзкасьці і, у першую чаргу, рабочых гораду павінна выразіцца ў пасылцы рабочых брыгад і канкрэтнай дапамозе правядзеньню гэтае працы, памятуючы, што толькі пры апоры на вясковую беднату і маламоцнае серадняцтва можна будзе мець значны посьпех.

З. Л.

# РЫХТУЙЦЕ НАСЕНЬНЕ.



Спрабаваньне замежнага трыера на машынна-спрабавальнай станцыі ў Менску.

## Пасеўная кампанія і насеннаводзтва.

Правільная падрыхтоўка і пасьпяховае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі мае вялізарнае значэньне ў эканоміцы ўсёй народнай гаспадаркі. У зьвязку з гэтым на пасеўную кампанію павінна быць зьвернута ўся ўвага савецкай грамадзкасьці і ў першую чаргу саўгасамі, калгасамі і бядняцка-серадняцкай масай насельніцтва.

Пашырэньне пасеўных плошчаў наогул і пашырэньне плошчаў пад гатунковымі пасевамі і пасевамі на насеньне, у прыватнасьці падвышэньня ўраджайнасьці, узмацненьне социялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы, кааперававаньне і абагульваньне вытворчых працэсаў, змаганьне з кулацкім і варожым рабочаму клясу элемэнтам,—зьяўляецца галоўнай практычнай задачай надыходзячай пасеўнай кампаніі.

Пытаньне аб пашырэньні пасяўной плошчы, а таксама пытаньне ўздыму ўраджайнасьці ў значнай ступені залежыць ад падрыхтаванасьці з насеньнем. Трэба адзначыць, што ў залежнасьці ад скарыстаньня насеньня—як мы ацэнім насеннаводную справу і якую наладзім ёй сваю ўвагу ў гэтым годзе—залежыць пасьпяховасьць правядзеньня пасеўных кампаній і на будучы час.

Усё пытаньне з насеньнем і насеннаводзтвам ахоплівае наступныя пытаньні: 1) на колькі забясьпечаны насеньнем; 2) на колькі рыхтуемае насеньне добраякаснае, як вызначыць якасьць і як захаваць да засеву добраякаснасьць насеньня; 3) на колькі поўна і правільна скарыстаны запасы гатунковага насеньня ў сэнсе правільнай арганізацыі

плошчаў пасеваў і незасьмечанасьці іх рознымі гатункамі; 4) на колькі ўсур'ёз зьвяртаем увагу ў забясьпечанасьці адпаведнымі мерапрыемствамі арганізацыю і пашырэньне плошчаў засеву на насеньне дэфіцытных расьлін, як-та: лугавых траў, караньплодаў, гародніны, пасеўных траў і лубіну.

### Пытаньне аб забясьпечанасьці насеньнем.

Галоўнай крыніцай атрыманьня насеньня для засеву павінны зьявіцца запасы саміх гаспадарак. Недастатковая колькасьць насеньня ў часткі гаспадарак павінна быць пакрыта за рахунак пераразмеркаваньня насеньня ў парадку мясцовых нарыхтовак і ўжо недастаючая колькасьць насеньня павінна быць забясьпечана завозным насеньнем. Зараз наша ўвага павінна быць сканцэнтравана на двух першых крыніцах для атрыманьня насеньня.

Значны рух калгаснага будаўніцтва ўзмацніў агітацыю кулацкіх элемэнтаў супроць калгасаў і мерапрыемстваў савецкай улады. Уся агітацыя кулака накіравана на разбазарваньне насеньня. Што значыць разбазарыць насеньне? Гэта значыць ня толькі не забясьпечыць пашырэньне пасеўнай плошчы, а наадварот, скараціць яе. Скарачэньне ўсяе пасеўнае плошчы цягне за сабой зьніжэньне прадукцыі, што можа выклікаць харчовы крызіс.

Шкодныя месцы кулацкай агітацыі павінны быць відавочны для ўсёй батрацка-бядняцка-серадняцкай часткі насельніцтва. Адным з лепшых мерапрыемстваў па змаганьні з разбазарваньнем насеньня зьяўляецца абагульваньне насеньня гаспадаркамі, якія ўваходзяць у калгас, узмацненьне грамадзкіх насенных запасаў т-ваў узаемадапамогі, нескарыстаньне на спажывецкія патрэбы і належнае захоўваньне маючагася насеньня ў бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, якія яшчэ ня ўступаюць у калгас. Выкананьне вызначаных апошняй пастановай Савету Народных Камісараў колькасьці абагуленых насенных фондаў у 300.000 тон, даводзеньне насенных фондаў камітэтаў сялянскай узаемадапамогі да 12.000 тон і мерапрыемствы па самазабясьпечанасьці насеньнем бядняцка-серадняцкіх гаспадарак павінны зьявіцца магутным адпорам кулаку. Уся гэта праца патрабуе значных напружанасьцяй з боку мясцовых працаўнікоў. Ня з меншай напружанасьцю з боку савецкай грамадзкасьці патрэбна зьвярнуць увагу на пытаньне мясцовых нарыхтовак.

Зараз мы маем зусім невялікі процант выкананьня па мясцовых нарыхтоўках, асабліва адстаюць нарыхтоўкі насеньня траў. Напрыклад, ступень выкананьня пляну нарыхтовак па канюшыне—13 проц., сэрадэлі—3 проц., вікі 10 проц., лубіну—2 проц. Зразумела, што гэткае зьявішча ставіць пад пагрозу здавальненьне нашых патрэб у насеньні паказаных культур. Неабходна зараз-жа ўжыць усе захады, каб ня толькі палепшыць справу нарыхтовак, але і перавыканаць плян нарыхтовак.

### Пытаньні якасьці насеньня і ўмовы хаваньня.

Усім ясна, што якасьць насеньня мае значны ўплыў на павялічэньне ўраджаю, але ўсе недастаткова зьвяртаюць увагу на тое, каб своечасова вызначыць якасьць насеньня і належным чынам захаваць яго да засеву.

Ужо зараз неабходна ачысьціць, адсартаваць і вызначыць якасьць насеньня, г. зн. падрыхтаваць насеньне да засеву.

Як выявіць якасьць насеньня? Лепш усяго запрасіць да сябе агранома, у прысутнасьці яго аглядзець сьвіран, дзе захоўваецца ачышчанае і адсартаванае насеньне, узяць з насеньня ўзор (як браць узор, агранам ведае) і накіраваць яго на бліжэйшую кантрольна-насенную станцыю. Асаблівая ўвага павінен быць зьвернута ўмовам хаваньня насеньня. Асабліва востра стаіць пытаньне з захаваньнем насеньня ў с.-г. крэдытных т-вах і саўгасах. Пры захаваньні насеньня неабходна забясьпечыць выкананьне наступных асноўных правіл захаваньня.

1. Усё сартовае насеньне павінна захоўвацца асобна па сартах з тым, каб зьнішчыць выпадкі зьмяншэньня сартовага насеньня паміж сабой, або з беспародным насеньнем.

2. Памяшканьне, дзе захоўваецца насеньне, павінна быць добра агледжана ў сэнсе: а) спраўнасьці дахаў, падлогі, сьцен і засекаў, б) зьнішчэньня павуціны, сьмяцьця і інш., што можа зьявіцца прытулкам для сьвіранёвых шкоднікаў альбо засьмечанасьці насеньня, в) пабудовы вэнтылятараў—вакон, рашотачных дзьверак і г. д., г) зьнішчэньне сьвіранёвых шкоднікаў і пацукоў.

3. На працягу ўсяго часу захаваньня насеньня неабходна амаль штодзенна мець нагляд за насеньнем і,калі насеньне вільготнае альбо складзена буйным пластом, дык патрэбна гэта насеньне пералапачваць або прапускаць праз сартыроўку (ветрагон).

Трэба памятаць, што ў вільготныя дні нельга сьвіран трымаць з адчыненымі дзьвярамі і вокнамі. Праветрываньне зярна магчыма рабіць выключна ў сухое, марознае надвор'е.

Як у калгасах, так і ў саўгасах і асабліва пры захаваньні абагуленых насенных фондаў патрэбна ўчыніць стражайшы нагляд за ўмовамі хаваньня насеньня шляхам арганізацыі праверкі брыгадамі. Патрэбна ўзяць пад грамадзкі кантроль таксама і ўмовы хаваньня насеньня і ў с.-г. крэдытных т-вах.

## Пасеў сартавым насеньнем—першы крок да ўздыму ўраджаю.

Досьледы дасьледчых устаноў і практыка паказвае, што пасеў гатунковым насеньнем павялічвае ўраджай палёў на 20—25 проц. у параўнаньні з ураджаем пасеваў беспародным насеньнем.

У зьвязку з гэтым наша ўвага павінна быць накіравана на поўнае скарыстаньне ўсіх сартавых запасаў, якія знаходзяцца ў насельніцтва, калгасах і якое атрымоўваецца з-за меж БССР і ад Дзяржнасенфонду. Па колькі зараз распачата праца па абагульваньню насеньня ў калгасах, дык патрэбна не дапускаць зьмяшэньня гатунковага насеньня. Ці можа гэткае зьявішча здарыцца? Можа. У мінулым і ў 1929 г., напрыклад, у значнай частцы насельніцтва ўжо мелася гатунковае насеньне аўса, пры чым розных гатункаў. Зараз, калі кожны двор уступае ў калгас і абагульвае сваё насеньне, могуць быць выпадкі здачы розных гатункаў. З тым, каб гэта папярэдзіць, патрэбна: 1) каб абагульванае насеньне было добра ачышчана і адсартавана і 2) сачыць, каб розныя гатункі ссыпаліся паасобна.

## Завадзі аднасортны пасеў усім т-вам або калектывам.

Вялікае значэньне мае як скарыстана сартовае насеньне на засеў. Адказным момантам пры засеве зьяўляецца:

1) на колькі падрыхтавана глеба для засеву.

2) Колькі гатункаў адной расьліны ўжывае гаспадарка.

3) Ці ўжывае гаспадарка ізаляцыю засеву ад іншых культур. Гэта патрэбна для крыжаапылкавальнікаў, як, напрыклад, жыта.

Падрыхтоўка і ўгнаеньне глебы мае значны ўплыў на ўраджай. З тым, каб забясьпечыць добры ўраджай, неабходна, каб палі былі чыстымі ад сьмяцьцёвых расьлін; глеба добра апрацована і ўгноена.

Калі значэньне якасьці падрыхтоўкі глебы больш-менш ужо ўсім знаёма, дык зусім або мала вядома значэньне ўжываньня ў гаспадарцы на засеў адзінага гатунку. На гэтым моманце трэба ўжо зараз



Селянін правярае якасьць сартаваньня насеньня на зерняачышчальным пункце. (Вёска Яноўка, Сьмілавіцкага р., Менскай акругі).

завастрыць увагу. Гэта выклікаецца тым, што ў бліжэйшы час калгасы пачнуць рабіць абмен свайго насеньня (звычайнага, або нячыстагатунковага) на сартавое, а па-другое, што ў тых калгасах і саўгасах, дзе маецца для здачы сартовае насеньне, скарыстоўваецца на фураж звычайнае насеньне.

Чаму трэба ўжываць на засеў адзін гатунак? Гэта выклікаецца тым, што толькі чыстагатунковы пасеў дае падвышэньне ўраджаю, а чыстагатунковы пасеў тым сортам, які больш падыходзіць да глебавых умоў гаспадарак, дае найлепшы вынік. Апрача таго, прадукцыя ад ураджаю аднаго гатунку мае аднолькавы выгляд, што спрыяе падвышэньню кошту прадукцыі як тавару (ажыцьцяўляецца стандартызацыя). Калі-ж будзем мець мешаніну розных гатункаў, дык паказанай карысьці ня будзе. Адсюль вынікі—патрэбна рашуча змагацца за плошчу пасеву аднаго гатунку. Як я ўжо казаў, у бліжэйшы час пачнецца абмен гатунковага насеньня калгасам. Патрэбна, каб калгас быў-бы задаволены на ўсю плошчу засеву адным гатункам, што папярэдзіць выпадкі мешаніны гатункаў. Аднак нельга абмежавацца толькі ўжываньнем аднаго гатунку ў адной гаспадарцы, а ў суседніх гаспадар-

ках ужываць іншыя гатункі. З тым, каб лепш захаваць чыстагатунковасьць засеву, патрэбна арганізаваць суцэльныя засевы—частак раёну, а то і на ўсёй плошчы раёну (калі няма значнай розьніцы ў глебавых умовах). Суцэльныя засевы лепш папярэджваюць мешаніну гатункаў, а па-другое—зьмяншаюць затраты па ацэнцы ступені гатунковасьці пасеваў. Гэта акалічнасьць павінна быць узята пад увагу аграпэрсаналам, працаўнікамі с.-г. крэдытных т-ваў, калгасамі пры разьмеркаваньні ў раёнах сартовага насеньня. Патрэбна рашуча праводзіць мерапрыемствы па засеву адным гатункам і засеву суцэльных масываў.

Мэтад арганізацыі суцэльных засеваў у раёнах суцэльнай калектывізацыі цалкам ужыць. На працягу часу да засеву патрэбна на мясцох упарадкаваць усю справу па скарыстаньню гатунковых запасаў, бо ад гэтага залежыць далейшае скарыстаньне і распаўсюджваньне гатунковага насеньня і выкананьня заданьня ўраду аб 100-процантнай зьмене беспароднага насеньня на гатунковае.

Асаблівая ўвага таксама павінна быць зьвернута тым гаспадаркам, дзе захоўваецца гатунковае насеньне для здачы (саўгасы) і дзе для гаспадарчых патрэб ужываецца звычайнае зярно. Патрэбна аграпэрсаналу на мясцох утварыць сталы нагляд за гэтымі гаспадаркамі, маючы на ўвазе, што амаль усё гатунковае насеньне гэтых гаспадарак павінна быць скарыстана ў межах раёну.

Калі з вытварам насеньня для засеву справа абстаіць больш-менш здавальняюча, дык з вытварам дэфіцытнага насеньня (насеньня лугавых траў, караньплодаў, канюшыны, гародніны, лубіну на насеньне, вікі, сэрадэлі) справа абстаіць дрэнна.

Аграпэрсаналу ў раёнах патрэбна рашуча ставіць пытаньне аб пашырэньні плошчаў на насеньне паказаных культур. Ніякіх правалочак у гэтым напрамку не павінна быць.

У раёнах плянавых меркаваньняў па кантрактацыі патрэбна выходзіць з неабходнасьці поўнай і нават з лішкам забясьпечыць раён, акругу насеньнем гэтых культур, маючы на ўвазе неабходнасьць значнага пашырэньня плошчаў.

Зараз пытаньне з насеньнем зьяўляецца актуальным пытаньнем і неабходна ўжыць усе захады, каб забясьпечыць пасьпяховае выкананьне мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

**Бялоў.**

## Аб пратручваньні насеньня аўса.

У канцы лістапада м-ца м. г. мною былі распрацаваны даньня насенна-кантрольных станцый БССР адносна пашкоджаньня сажаю сартовых засеваў аўса. Сярэдняя заражонасьць для 1927—1929 г.г. была такой:

| Год | Плошча (у га) | % пашкодж. сажаю. |
|---|---|---|
| 1927 | 785,4 | 2,29 |
| 1928 | 3415,1 | 2,16 |
| 1929 | 5359,3 *) | 6,92 |

*) Сюды не ўвашлі даныя па Віцебскай і Полацкай акр. з плошчаю ў 442 га. (1,28—3,09%).

Найбольшы процант пашкоджаньня сартавых аўсоў сажаю ў 1929 г. быў адзначаны прыблізна ў 60 гаспадарках з плошчаю ў 1289,08 га. Тут сярэдняе пашкоджаньне было 17,29%.

Насеньне аўса гэтых найбольш заражоных засеваў і зьяўляецца ў першую чаргу небясьпечным у сэнсе далейшага пашырэньня заразы. На такі пасеўны матэрыял трэба зьвярнуць увагу.

Пры гэтым можа паўстаць некалькі пытаньняў, напрыклад:

1) Ці можна высоказаражоны авёс ужываць для засеву ў 1930 г.

2) Калі можна, дык якія прадасьцярогі неабходна прыняць, каб не дапусьціць пашырэньня сажы.

3) Найлепшы спосаб пратручваньня насеньня аўса і інш.

Коратка адкажу на гэтыя пытаньні: усходы аўса могуць заражацца сажаю з двух крыніц заразы—ад тых спор (заднікаў) сажы, якія прысталі да насеньня аўса з паверхні ў час абмалоту і, другое, авёс мог быць заражоны ад пашкоджаных сажаю экз. яшчэ ў час красаваньня на полі. У гэтым выпадку споры прарастаюць у грыбню, якая пранікае пад пленкі аўса і там перазімоўвае.

Зусім зразумела, што чым больш пашкоджаным быў засеў у мінулым годзе, тым больш заражонае ён дае насеньне. Пры высеве такога насеньня ў большым ліку выпадкаў трэба чакаць толькі павялічэньня % заражэньня новага ўраджаю, чым зьніжэньня. Спадзявацца на дрэнныя ўмовы пагоды для разьвіцьця сажы нельга. Заражонае насеньне мае часта больш мільёну спор на кожным зерні аўса. Пры заражонасьці аўса на полі на 0,01—0,1% насеньне мае нявысокую колькасьць спор і пры высеве звычайна не дае прыметнага % сажы.

У Нямеччыне і Швэйцарыі для сартавых засеваў аўса прыняты яшчэ меншыя проц. мажлівай заражонасьці (0,003%).

Такім чынам, нармальным патрэбна было-б лічыць, што насеньне аўса з заражоных засеваў вышэй гэтай нормы неабходна пратручваць. Але з гаспадарчага боку гэта не заўсёды будзе правільна. Пратручваньне патрабуе пэўных затрат, чаму пры высеве слабай заражонасьці насеньня пратручваньне можа быць і нясходным.

Звычайна лічаць неабходным пратручваць насеньне аўса з пасеваў заражоных на 1—2% і больш.

Таксама з гаспадарчага боку няма сэнсу бракаваць сартовае насеньне толькі таму, што засеў меў высокі % сажы ў 1929 г. І такое насеньне выкарыстаць можна, але пры ўмовах самага ўважлівага яго пратручваньня.

З усіх вядомых спосабаў пратручваньня насеньня (мокры, сухі, поўсухі, газавы) для аўса ўпэўнена можна раіць пакуль што толькі мокры і фармалінам. Тлумачыцца гэта тым, што фармалін здолен пранікаць пад луску насеньня аўса і там забіваць грыбню сажы, а таксама пратручваць насеньне і з паверхні. Гэтага нельга сказаць пра апыльваньне.

Пры правільным карыстаньні фармалінам у пратручваньні ён амаль у поўнай меры абеззаражвае насеньне.

Правільнае пратручваньне патрабуе прынятага разбаўленьня фармаліна вадою (для 40% фарм. разбаўленьня 1 : 300), поўнага змачваньня і перамешваньня насеньня і далейшага акуратнага вытрымоўваньня насеньня 2 гадз. прыкрытым. Хто не прытрымоўваецца гэтых правіл, той далей дарма ганьбіць пратручваньне. Калі фармалін на дне пасудзіны мае жоўтае асяданьне, дык яго перад ужываньнем трэба падагрэць: фармалін пасьвятлее.

Пасьля пратручваньня насеньне трэба прасушыць. Асабліва шкодзен высеў недасушанага насеньня для пескавых глеб ці для сяўбы ў сухую пагоду. Тут набухшае насеньне пры высеве можа пачаць прарастаць, даць карэнчык і далей загінуць у сухой глебе. Пры добра прасушаным насеньні яно будзе прарастаць толькі пры належнай яму вільгаці глебы.

Калі насеньне аўса ў 1929 г. мела высокую заражонасьць (2% і больш), дык яго лепш пратручваць апусканьнем на 5 мін. у раствор фармаліну (1 : 300), а далей 2 гадзіны вытрымоўваць прыкрытым і прасушваць.

У такім разе самі споры сажы будуць адмыты. Калі раствору будзе мала, яго прыбаўляюць. Пасьля двух-трох-разовага апусканьня насеньня аўса, раствор фармаліна становіцца чорным ад спор сажы.

І яшчэ адна заўвага. Пратручваньне аўса фармалінам неабходна праводзіць за дзень-два да пасева, каб ня было зьніжэньня ўсходжасьці насеньня. Часта на пратручваньне не хапае часу. У такім разе для менш заражонага насеньня неабходна ўжыць хоць поўсухі спосаб. Тут бяруць разбаўленьне фармаліну 1 : 90, добра змачваюць 1 літр. раствору 70 літраў насеньня. Так пратручанае насеньне яшчэ ноч стаіць у мяшкох, а на другі дзень высяваецца.

Пры шырачэзных задачах, якія ставяцца Савецкай уладай для пасеўнай кампаніі 1930 г., нашым насенным гаспадаркам нельга абыходзіць пратручваньне насеньня аўса. Гэта асабліва неабходна тым гаспадаркам, дзе ў мінулым годзе была высокая заражонасьць.

Таксама і для ўсіх нашых каляктыўных гаспадарак пратручваньне заражонага насеньня аўса зьявіцца надзейным спосабам падвысіць ураджай на 10—12%.

Увесь фармалін для пратручваньня аўса!

Сухое пратручваньне насеньня пшаніцы і ячменю.

**С. Тупяневіч.**

---

# Умейце даглядаць насенныя фонды.

Страты, якія робяць шкоднікі зерня і мукі, не абмяжоўваюцца толькі зьніштажэньнем зерня і зярнёвых прадуктаў, але ўзмацняюцца яшчэ тым, што заражанае зерне і зернярадукты вельмі забруджваюцца, а гэта выклікае захвораньні як у чалавека, так і ў дамовых жывёл.

Напрыклад, вядомы выпадкі мыту ў коняй, якія карміліся зернем, заражаным сьвіранёвым даўганосікам, а ад ужываньня зерня, заражанага зернявой моляй, пачынаецца запаленьне органаў дыханьня.

### Рабеце дэзынфэкцыю сьвірнаў і мяхоў.

Барацьбу са шкоднікамі сьвірнаў, асабліва ў сялянскай гаспадарцы, трэ' праводзіць штогод і галоўную ўвагу зварачаць на дэзынфэкцыю як самых сьвірнаў, так і мяшкоў, памятаючы, што толькі ў гэтым выпадку зерне, ссыпанае ў сьвіран, будзе захована.

З гэтай мэтай трэ' ўжыць захады к таму, каб усе казюлькі не папалі ў сьвіран. Для гэтага патрэбна:

1. Пры пабудове сьвірну трэба зрабіць высокае падпольле з добрай вэнтыляцыяй.

2. Вычысьціць з падпольля зерне, якое насыпалася туды праз шчыліны.

3. Засыпаць падпольле ценькім пластам гашанай вапны з ліку 2 *кг* на 5 кв. мэтраў плошчы.

4. Абмазаць ніжнюю частку падлогі смалой або дзёгцем.

5. Выкапаць вакол сьвірну невялічкі равок для сьцёку вады.

6. Зрабіць у сьценах невялічкія адтуліны для праветрываньня, закрыўшы іх дробнымі кратамі, каб не запаўзалі буйныя шкоднікі, напрыклад, грызуны.

7. Не сартаваць і не правейваць унутры сьвірня.

8. Пустыя мяшкі нельга трымаць разам з зернем, бо ў іх звычайна хаваюцца шкоднікі.

9. Мяшкі перад насыпкаю іх зернем трэ' добра выбіць ад пылу, а потым абкурыць серавугляродам; робіцца гэта так: мяшкі складаюцца ў скрыню (2×2 мэтры), якая не прапускае паветра, зьверху ставіцца пасудзіна з серавугляродам з разьліку 1 *кг* на 800 *кг* мяшкоў і трымаецца двое сутак, пасьля чаго асьцярожна адчыняюць скрыню, а мяхі праветрываюць.

Для абеззаражаньня сьвірнаў ужываюцца такія спосабы барацьбы: сушаць зерне на зернясушылках, ачышчаюць ад шкоднікаў, прапушчаюць праз веялкі. У складах, якія заражаны сьвірновым даўганосікам, сяляне засьцілаюць восеньню зерне аўчынамі, шэрсьцю ўніз, куды і забіраюцца даўганосікі ў пошуках цяпла, а потым іх адтуль вытрасаюць на мокры брэзэнт і спальваюць.

Для ачысткі ад зярнёўкі гарох кладзецца ў ваду. Папсаваны гарох усплывае на паверхню і тады яго зьбіраюць і зьніштажаюць. Апрача таго, перад ужываньнем у ежу гарох можна зьлёгку падагрэць на блясе для печыва, гэта прымушае жуксў вылазіць з гароху.

### Як зьніштажаюцца шкоднікі.

Зьніштажаюцца шкоднікі апырскваньнем расчынаю нягашанай вапны, або газамі. Пры зьніштажэньні расчынаю вапны трэ' прарабіць наступнае:

1. Акуратна ачысьціць склад ад пылу і рассыпанага зерня.

2. Забіць усе буйныя шчыліны пакульлем і замазаць іх сумесьсю гліны і вапны.

3. Потым апырскаць вапенным малаком, для чаго бяруць чыстую нягашаную вапну, 1½ *кг* на 10 літраў вады, гасяць яе і дабаўляюць паступова газ з разьлікам 800 *гр* на 10 літраў вапеннага малака; гэтую сумесь трэ' мяшаць, пакуль не атрымаецца аднастайная сумесь. Апырскваньне робіцца з апырскваценя. Калі няма апарата, можна абмазаць сьцены простым малярным пэндзлем, сочачы за тым, каб расчына пападала ва ўсе шчыліны і адтуліны.

Пасьля апырскваньня вапенным малаком падлогу сьвірну трэ' добра вымыць лугам, з разьліку 800 *гр* соды на 10 літраў вады.

### Газавы спосаб зьнішчэньня шкоднікаў.

Для зьнішчэньня шкоднікаў газамі, у сялянскай гаспадарцы ўжываецца, галоўным чынам, камкаватая серка і сераўглярод. Серкавы газ, які атрымліваецца ад спаленай серкі, надае зерню і муцэ асаблівы пах, разбурае тканкі зерня і паніжае ўсходжасьць. Таму акурваньне

серкай практыкуецца, галоўным чынам, толькі пустых складаў і сьвірнаў. Перад газавым зьнішчэньнем шкоднікаў робіцца акуратная ачыстка памяшканьня ад сьмяцьця, замазваюцца ўсе шчыліны ў вокнах і дзьвярах, наглуха зачыняюцца ўсе прадухі.

**Акурваньне серкай.**

Спальваюць серку на жалезных бляхах з бакавымі сьценкамі. Каб ня здарылася пажару, трэ' пакрыць дно і бакі бляхі пластом пяску таўшчынёю ў 2 *см*, і калі ў складзе пол драўляны, дык пад бляхай пасыпаецца пласт зямлі таўшчынёю 15 *см*. Разьмясьціўшы бляхі роўнамерна, кладуць серку, з разьліку на 10 куба-мэтраў памяшканьня 1 *кг* камкаватай серкі.

Дзеля таго, што серкавы газ цяжэй паветра і імкнецца ўніз, трэ' бляхі ставіць як мага вышэй, асабліва, калі ў складзе каменныя сьцены. Калі ў складзе сьцены драўляныя, бляхі на палу ставяцца ад сьцен на адлегласьці 3 мэтраў. Паставіўшы як сьлед бляхі, запальваюць серку, і каб яна лепш гарэла, шмаруюць яе папярэдне газай ці дабаўляюць на кожныя 15 частак серкі 1 частку салетры. Пасьля гэтага рабочыя шчыльна зачыняюць і замазваюць загадзя прыгатаванай замазкай дзьверы. Акурваньне працягваецца 1—2 сутак. Пасьля акурваньня памяшканьне трэ' добра праветрываць на працягу ня менш 6—8 гадзін.

**Акурваньне серавугляродам.**

Серавуглярод уяўляе сабою бескалёрную, лёгка выпарваемую, моцна пахучую вадкасьць. З ёй трэ' быць вельмі асьцярожным, бо яна лёгка запальваецца; калі паднесьці да яе агонь, дык серавуглярод выбухае. Дзякуючы гэтаму—яго неабходна захоўваць у шчыльна зачыненай пасудзіне і, па магчымасьці, далей ад памяшканьня. Калі серавуглярод трэ' доўга захоўваць, дык у пасудзіну з ім ліюць ваду, якая лягчэй серавугляроду, усплывае на паверхню і гэтым ахоўвае яго ад выпарваньня.

Пара серавугляроду надзвычайна атрутная і гэтай яго ўласьцівасьцю карыстаюцца для барацьбы з сьвіранёвымі шкоднікамі, акурваючы ня толькі парожнія сьвірны, але і загружаныя. Па сканчэньні падрыхтоўчай работы, якая заключаецца ў замазцы, ачыстцы падпольля і г. д., разьмяшчаюць талеркі ці бляхі з такім разьлікам, каб яны, па магчымасьці, былі разьмешчаны раўнамерна па ўсяму памяшканьню і знаходзіліся пад акурваемымі прадуктамі, бо газ апушчаецца ўніз.

Разьліваюць серавуглярод з бочкі спачатку ў вёдры, а потым чарпачком у пасудзіны. Скончыўшы разьліўку, людзі хутка выходзяць, дзьверы шчыльна замыкаюць і зараз замазваюць. Памяшканьне ў такім выглядзе пакідаюць на двое сутак, пасьля чаго дзьверы адчыняюцца і памяшканьне добра праветрываецца.

Работу па акурваньню сьвірнаў серавугляродам неабходна даручаць спрактыкаваным асобам, якія-б сачылі, каб у часе працы ніхто з прысутных ня курыў. Трэ' сачыць, каб пасьля таго, як памяшканьне зачынена, ніхто да яго не падыходзіў, для гэтага трэба паставіць вартавога.

Спэцыялісты **М. Гафрон.**

---

# УВАГА ТЭХНІЧНЫМ КУЛЬТУРАМ.

## Пра адно з пытаньняў ільнокультуры.

Ільнаводзтва на Беларусі пашыраецца даволі шпарка, а тым больш цяпер, калі ствараюцца буйныя сацыялістычныя ільнагаспадаркі з плошчаю ў сотні і тысячы гектараў.

Бязумоўна, што пытаньні гадоўлі ільну займаюць зараз вельмі важнае месца, пры чым асабліва зьвяртаюць на сябе ўвагу шкоднікі і хваробы ільну. Пытаньні гэтыя, асабліва хваробы, мала высьветлены як у нас у Саюзе, так і за межамі, у той час, як гэтыя хваробы ў некаторых выпадках робяць гадоўлю ільну немагчымай.

Факты, якія характарызуюць здароўе нашых беларускіх ільноў, паказваюць нам на даволі сур'ёзны стан.

Па дадзеных фітопатолёгічнага абсьледваньня ільноў Беларусі 1928 г. (пад кіраўніцтвам праф. Мэд[illegible]ша), мы маем такія лічбы: перад момантам прыборкі ільну, паражоных рознымі хваробамі пасеваў было—99,1%, з іх ліку пасеваў высока-паражоных—56,6% (за высокае паражэньне прымаецца паражэньне, перавышаючае 20% ліку расьлін). Іржою былі паражоны—70% пасеваў, антрохнозам—83%, фузарыёзам і інш.—76%; лік высока-паражоных быў таксама значны, сустракаліся пасевы паражоныя нават на 100% як некалькімі хваробамі адразу, так і аднэй.

Ад дадзеных абсьледваньня 1929 г., канчаткова яшчэ ня выведзеных, уражаньне ня лепшае: на Полаччыне маем вялікія паражэньні іржою; ёсьць раёны (напр., Дрысенскі), дзе звыш 50% пасеваў—высока-паражоных іржою, што адзначае ў сэнсе таварным, у сэнсе выхаду валакна—значныя страты ў колькасьці і пагоршаньне якасьці валакна. На Віцебшчыне, ня менш зьяўляюцца і іншыя хваробы; так, па фузарыёзе маем шэраг выпадкаў, калі адміралі часткі ільнянога пасеву (арцель „Адраджэньне“ і інш.), таксама маем цяжкія паражэньні сумаю хвароб пасеваў у калгасах, саўгасах і ў сялян-контрактантаў.

Горш за ўсё, што хваробы ільну пакуль што не паддаюцца зьнішчэньню. Калі такія хваробы, як галаўня, ражкі, розныя хваробы саду, можна адхіляць хэмічнымі ці фізычнымі спосабамі барацьбы, дык адносна хвароб ільну гэтага сказаць нельга. Ніякіх практычна-прыгодных сродкаў барацьбы пакуль што ня выпрацавана як па прычыне малой вывучанасьці хвароб (некаторыя з іх знойдзены і апісаны толькі ў пасьляваенны час), так і дзякуючы фізыолёгічным асаблівасьцям хвароб. Так, да адных хвароб (напр., іржа) нельга дапасаваць якога-небудзь пратручваньня насеньня, бо яны праз семя амаль не перадаюцца, да другіх (фузарыёз і інш.) гэтую меру правесьці цяжка, бо гэтыя хваробы, у большасьці, знаходзяцца ў сярэдзіне зерняці і пры хэмічнай ці іншай апрацоўцы насеньня яно рэзка зьмяншае ўсходжасьць.

Паўстае пытаньне: якім-жа чынам можна накіраваць разьвіцьцё ільнаводзтва па найбольш правільным шляху?

Тут на дапамогу павінны прыйсьці шырокія *кантрольна-фітапаталегічныя і плянава-арганізацыйныя мерапрыемствы.*

Да нас штогод з розных месц саюзу завозіцца значная колькасьць ільнянога семя, якое зьяўляецца вельмі стракатым па вышыні сваёй заражонасьці хваробамі. Напрыклад, у 1929 г. сярод завезеных 114 вагонаў семя мела месца заражонасьць (па даных нашай частковай экспэртызы) ад 10 і да 43%, прычым каля 40% прааналізаваных партый былі высока-заражоныя (на 20% і вышэй). Адсюль зразумела, што калі-б нашы адпаведныя рэспубліканскія арганізацыі звярочвалі ўвагу пры закупцы, побач з іншымі момантамі таксама і на гэты, дык тады-б насеньне ільну, заражонае на такую ступень, як 30—40% і вышэй не трапляла-б на беларускія палі, не прападала-б само і не заражала-б глебы і суседніх пасеваў. Варта мімаходам заўважыць, што ў Нямеччыне лічаць немэтазгодным высеў ільнянога семя пры заражонасьці яго вышэй за 5%.


Лён, пашкоджаны фузарыёзам (справа). Зьлева—здаровыя сьцяблы.

Ажыцьцяўленьне такога кантролю тым больш магчыма, што заражонасьць семя задоўга да сяўбы можа быць выяўлена шляхам фітопаталегічнай экспэртызы. Праўда, мэтадам насеннага кантролю нельга выявіць трываласьць ільну супроць шкадлівай іржы, але, забясьпечыўшы адзін бок справы, можна лягчэй справіцца з другім. Тут якраз выступае роля палявога кантролю ільну, які таксама магчыма арганізаваць пры дапамозе агра-спэцыялістых на мясцох, як ільнаводы, апрабатары і г. д. Лён з першага-ж году пачне праяўляць свае адносіны да заражэньня іржою і цяжка паражаемыя ільны павінны будуць выключацца з насенфондаў у працэсе зазначанага кантролю і замяняцца больш трывалымі на будучы год. Зразумела, што першы час, выключаць з культуры прыдзецца найбольш нятрывалыя, заражоныя, тое самае адносіцца і да насенкантролю, але паступова патрабаваньні да якасьці ільну можна будзе павялічыць.

У гэтай справе выяўляецца важнасьць *плянава-арганізацыйнага* падыходу з боку нізавых крэдытных арганізацый у іх працы па разьмеркаваньню і прыёмцы назад насеннага ільну і чаго дагэтуль, на жаль, ня было. Прыклад: розныя партыі ільну (з розных вагонаў, рознай нарыхтоўкі і г. д.), якія амаль заўсёды адрозьніваюцца паміж

сабой па сваёй заражонасьці, т-вамі адпускаюцца зазвычай уперамешку, пры гэтым здаровыя мяшаюцца з хворымі, і ў выніку каштоўнае семя псуецца; у сувязі з гэтым-жа, т-вы не вядуць запісаў—куды (у якія калгасы, вёскі) раздадзена імі семя тае ці іншае партыі, так што, ужо пры прыёмцы назад ад кантрактантаў—ствараецца канчатковая і безнадзейная мешаніна заражонага насеньня.

Адсюль зразумела, як важна мець плянавасьць у разьмеркаваньні і прыёмцы насеннага матар'ялу.



Лён, пашкоджаны іржою (справа). Зьлева—здаровыя сьцяблы.

Такім чынам, мерапрыемствы ў справе барацьбы з хваробамі ільну наступныя:

1) Арганізацыя сталага, фітопатолёгічнага кантролю над насеннаматар'ялам. Для гэтага, з аднаго боку, нашым арганізацыям, нарыхтоўваючым семя па-за межамі БССР, трэба там дамагацца гарантый за якасьць семя, з другога боку, патрэбна найхутчэйшая арганізацыя на тэрыторыі БССР сталага фітопатолёгічнага пункту ці лябораторыі, для шырокага кантролю над насенным матар'ялам—ня толькі завозным, але і сваіх насенфондаў, прызначаных для абсеву калгасаў, саўгасаў і кантрактуючых гаспадарак.

2) Арганізацыя шырокага выяўленьня і адбору дабраякасных ільноў (як у фітопатол., так і другіх адносінах), мэтадам штогоднага плянавага кантролю над пасевамі БССР, што павінна быць увязана: а) з працай адпаведных аграспэцыялістых на мясцох, б) з сыстэмай заахвочваньня здатчыкаў ільнянога семя высокай якасьці (павышаныя расцэнкі і г. д).

3) Стварэньне цьвёрдай плянавасьці ў працы нашых забясьпечваючых, нізавых арганізацый, як пры разьмеркаваньні, так і прыёме семя (кантрактуемага ў асаблівасьці).

Апрача гэтых практычных мерапрыёмстваў, трэба адначасова разгарнуць і навукова-дасьледчую працу. Роля яе ў гэтай слаба вывучанай галіне—зразумелая. Яе першачарговымі задачамі павінны зьявіцца наступныя:

1) высьвятленьне ролі паасобных хвароб (а роўна і сутнасьці іх) у пашкоджаных ільноў БССР.

2) Адшуканьне сродкаў барацьбы з галоўнымі хваробамі.

3) Фітопаталёгічнае вывучэньне розных гатункаў ільну з мэтаю адшуканьня сярод іх найбольш трывалых.

Праўда, гэтая праца патрабуе кадраў фітопаталёгічных працаўнікоў, якіх на Беларусі, як і ва ўсім Саюзе, вельмі мала, але-ж гэтыя кадры падрыхтаваць неабходна.

Такім чынам, ясна, што ільнаводзтва, з галоўнымі базамі ў буйных соцыялістычных гаспадарках атрымае найбольш поўнае разьвіцьцё тады, калі, побач з інш. мерапрыемствамі, будзе забясьпечана перамога ў барацьбе з хваробамі ільну.

**Я. Р.**

---

# Каноплі на мінэральных глебах і асушаных балотах.

Наогул аб канаплі да сучаснага моманту мала любілі гутарыць і пісаць, пагэтаму і літаратура аб ёй надзвычайна абмяжована. Многія, выходзячы з запатрабаваньня канаплі, лічылі яе культурай пераходзячай, месца якой павінны заняць лён, джут, маніла і іншыя. Але статыстычныя даныя, паказваючыя ўзрост плошчаў, занятых пад пасевы канаплі і прыбліжэньне яе плошчы к даваеннай норме, кажа за тое, што культура канаплі не адмірае, а жыве, ня гледзячы на некаторыя і выключна ёй належачыя асаблівасьці (патрэбнасьць у вялікіх нормах гною і іншае).

Разгледжаньне прыведзенай ніжэй табліцы паказвае дынаміку пасяўных плошчаў канаплі па ўсяму СССР.

| | |
|---|---|
| 1909—1913 г. г. . . . . . . . | 713,6 тыс. дзес. |
| 1918—1922 г. г. . . . . . . . | 542,9 " " |
| 1924 г. . . . . . . . | 566,3 " " |
| 1925 г. . . . . . . . | 747,4 " " |

Узрост пасяўных плошчаў канаплі, ідучы за лік новых райёнаў (Усход, Сібір і Паўночны Каўказ) прыводзіць к таму, што Саюз працягвае займаць сярод іншых краін сьвету першае месца па канаплі, тады як па льну ён займае чацьвертае.

Чым-жа вызываецца васстанаўленьне і ўзрост культуры канаплі? Відавочна, тут іграе ролю магчымасьць скарыстаньня прадуктаў каняплаводзтва ня толькі для спажывецкіх патрэб (алей, поскань), але і для збыта таварных ізьлішкаў і ў першую чаргу пянькі. Гэта акалічнасьць яскрава абрысоўваецца пры азнаямленьні з матарыяламі па эканоміцы канаплі ў тыпічных канапляных раёнах (напр., Арлоўскай губ.),

дзе таварнасьць па асобных уездах даходзіць да 100%. Значэньне канаплі ў такіх месцах у сэнсе складаньня агульнага бюджэта гаспадаркі можа быць дадаткова вызначана з вучоту валавой даходнасьці культуры. Разьлікі ў гэтай частцы т. Лапаўка, аўтара брашуры „Техника и экономика культуры конопли“, даюць па Арлоўскай губ. наступныя цыфры валавой даходнасьці з дзесяціны пасева ў даваенных рублях:

| | |
|---|---|
| Каноплі . . . . . . . | 158,51 руб. |
| Жыта . . . . . . . . . . | 55,85 „ |
| Авёс . . . . . . . . . . | 46,94 „ |
| Грэчка . . . . . . . . . | 36,98 „ |

Прыведзеныя даныя кажуць аб значным і высокім, у параўнаньні з зернявымі культурамі, валавым прыбытку канапель, які стымуліруе вырашчваньне іх у гаспадарках, дзе ёсьць лішак працоўных рук.

У Беларусі канапля па плошчы займала і займае невялікае месца. Агульная плошча яе пасеваў з 1916 г. па 1927 г. узрастае з 14112 дзес. да 27543 дзес., што складае 0,9% ад усёй пасяўной плошчы. Сама культура большасьцю распаўсюджана ў быўш. Магілеўскай губ., дзе па даным за 1911 г. плошча яе пасеваў складала 1,55% ад усёй пасяўной плошчы. У сучасны момант восстанаўленьне канаплянікаў ідзе галоўным чынам у старых месцах яе культуры.

Асноўная прычына адносна слабага разьвіцьця канаплі ў нас ў БССР, як і абмяжованасьць яе пасеваў у паасобных гаспадарках канапляводных раёнаў, заключаецца ў трэбавацельнасьці канаплі, на мінэральных глебах, у моцнай запрацоўцы апошняй гноем. Анкета, вытвараная ў 1914 г. у асноўных канапляводных раёнах Арлоўскай губ., паказала, што ў сялянскіх гаспадарках, на каналяніках найлепшыя вынікі атрымоўваюцца пры ўвалах гною ў прадзелах 4800-7200 пуд. на дзесяціну. Даныя па канаплі Арлоўскага дасьледчага поля кажуць аб нормах у 3600-4800 пуд. на дзес., якія могуць быць зьніжаны да 2400 пуд. толькі пры ўвядзеньні канаплі ў севазварот.

Зразумела, што пры гэткіх умовах чакаць значнага ў нас пашырэньня плошчы пад канаплянікамі ня прыходзіцца, калі мець у віду толькі мінэральныя глебы. Але пытаньне набывае іншы характар і іншае асьвятленьне, калі казаць аб скарыстаньні для канаплі асушаемых балот.

Асушальныя тарпнякі прадстаўляюць тое рэзкае ад мінэральных глеб адлічча, што яны багаты арганічнай матэрыяй—гумусам, і ў сілу гэтага не патрабуюць вельмі каштоўнага і важнага ўгнаеньня, якім зьяўляюцца азоцістыя ўгнаеньні.

Па гэтай-жа прычыне тарпянікам не патрэбен і гной, а патрэбны толькі аднабаковыя штучныя ўгнаеньні—калійныя і радзей каліфасфатныя.

На колькі-ж пасьпяхова культура канаплі на балотах і ці ёсьць у гэтай галіне палажыцельныя даныя? Нашы досьледы, хаця і непрадаўжыцельныя, і замежныя працы кажуць аб пэўнай пасьпяховасьці канаплі на асушаных балотах. Ніжэй прыводзяцца даныя ўраджайнасьці канаплі на гектар у цэнтнэрах:

1. Менская балотн. станц. за 1914-1924 г.г. 2,0—7,5 зерня; 26—78 сух. сьцябл.

2. Рудня-Радавельская балотн. ст. за 1912 г. 7,8—9,5 зерня; 2,3—3,8 пянькі.

3. Забалоцкая дасьл. балотная г-ка за 1925-26 г. г. 9,4—10,7 зерня; 4,0—4,5 пянькі.

Калі параўнаць гэтыя ўраджаі з ураджаямі канаплі ў Арлоўскай губ., дзе на гектар у цэнтнэрах атрымоўваецца зерня 4,9—10,4 і валакна 3,0—4,5, дык убачым, што асушаныя тарпянікі нікольки ня ўступаюць лепшым канаплянікам па сваей вытворчасьці. Лепшым падцьвярджэньнем сказанаму могуць зьявіцца матарыялы нямецкай практыкі, выкладзеныя ў працы Д-ра Гміндера. Па яго даных, ураджай



Каноплі на тарфяніку Забалацкае Балотнае Дасьледчае Гаспадаркі ў часе красаваньня.

зерня канаплі на балотах складае 10 цэнтн. на гектар і садзержаньне масла ў іх даходзіць да 26—32%; валакна трэпанага доўгага атрымоўваецца, 8,0 цэнт., альбо 4—6 цэнт. катонізіраванага (пражавога). Пры гэтым, што патрэбна асабліва падкрэсьліць, нямецкая практыка мае масавыя пасевы канаплі на балоце, як, напрыклад:—казённае іменьне „Геригфельд", дзе плошча пад канаплёй раўна 1.000 гектар. Мы бачым на гэтым прыкладзе ня досьлед, а масавую вытворчасьць з прамысловай мэтаю, і гэта лішні раз вызначае пасьпяховасьць культуры на балотах.

Працы памянёнай вышэй Забалоцкай дасьледча-балотнай г-кі за 1928 г. паказалі, што грунтоўным запатрэбаваньнем канаплі на балоце зьяўляецца належная ступень асушкі. Гэтак, пры зьмяншэньні адлегласьці паміж дрэнамі ад 50 мэтраў да 20 мэтраў, ураджай зерня павышаецца болей чым на 60%; ня меншая эфэктыўнасьць дзейнасьці калійных угнаеньняў, павялічываючых агульную масу ў параўнаньні з няўгноеным балотам у чатыры разы. Ёсьць шэраг і іншых моман-

таў, маючых сушчэственнае значэньне ў павялічэньні ўраджая, але гэта ўсё пытаньні тэхнікі культуры, якія вырашаць у мясцовых умовах дасьледчыя ўстановы. Важна тое, што і замежны і наш досьлед упаўне апрадзялённа кажуць аб пасьпяховасьці культуры канаплі на балотах; важна тое, што яна па валовай даходнасьці (матарыялы Забалоцкай дасьл. бал. г-кі) займае першае месца пасьля гародніны і значна перавышае па даходнасьці ўсе іншыя культуры. Гэты момант чыста эканамічны надзвычайна каштовен з таго боку, што ён дазваляе



Каноплі на тарфяніку Забалацкае Балотнае Дасьледчае Гаспадаркі перад уборкай на насеньне.

хутчэй вярнуць даволі значныя затраты першых гадоў на мэліарацыйныя работы, акалічнасьць якую належыць браць пад увагу і якая павінна вызначыць агульны напрамак гаспадараньня на балотах пры правядзеньні інтэнсыўнай асушкі, калі і стаўка павінна быць на інтэнсыўныя-ж культуры.

Але і апрача эканомікі пытаньне аб інтэнсыўных культурах, тэхнічных, карняплодаў і іншых набывае сугуба агратэхнічнае значэньне, так як з гэтымі культурамі зьвязана ўнясеньне ізуне вялікага запасу салей (калія) і, што яшчэ сушчэственьней, паўната і дасканальнасьць апрацоўкі тарпяніка, а адсюль большая ступень аэрацыі, абумоўліваючая ў сваю чаргу энэргічнасьць працэсаў разрушэньня стагодзьдзямі накопленага запасу—арганічнай матэрыі, з якой вызваляюцца да гэтага часу патэнцыяльныя каштоўныя элементы попельнага харчаваньня расьлін. Гэткая падрыхтоўка, бязумоўна, скажацца і на ўраджаі наступных за канаплёю культур (шматгадовы луг і. інш.).

Такім чынам, канапля на балотах знаходзіць аптымальныя ўмовы для свайго праізрастаньня, эканамічна выгадна і агратэхнічна вытрымана.

Вышэй прыведзеныя даныя ўраджайнасьці канаплі на балотах Германіі даюць у параўнаньні з нашымі дасьледчымі данымі амаль удвайне большы выхад валакна, прыбліжаючыся ў гэтай адносіне к ураджайнасьці канаплі ў Італіі, дзе культура дыфэрэнцыравана і вазьдзелываньне напраўлена па праімушчэству ў бок атрыманьня валакна. Ісходным матарыялам для выведзенай і цяпер кульцівіруемай на Германскіх балотах канаплі названай „немецкой коноплей“ паслужыла насеньне рускай канаплі. Як бачым, адбор дазволіў немцам атрымаць сорт канаплі, адлічаючыйся высокім і тонкім сьцяблом і даючым адначасова валакно і зерня. Што пахаджэньне насеньня грае первенствуючую ролю ў вызначэньні асаблівасьцяй канаплі, яе ўраджайнасьці, выгада валакна, зерня і інш., можна ўбядзіцца і з нядаўна паведамленых („Вестник льняного дела“ № 2) матарыялаў па культуры канаплі на Паўночным Каўказе, дзе мясцовая „Каўкаская“ канапля ў Кабардзінскай вобласьці дала сьцяблы вышынёю 2,5 і больш мэтраў пры агульнай масе іх (сухіх) на гэктар у 60—70 цэнтнэраў, тады як высеяныя там-жа насеньні Арлоўскай і Бранскай губ. павялічанага ўраджаю не далі. Ёсьць, такім чынам, магчымасьць значнага павялічэньня агульнай масы сьцяблоў канаплі шляхам перанясеньня новых, з даўгім сьцяблом, паўднёвых яе відаў, а сэлекцыйная праца над імі дазволіць атрымаць сорт, які і ў нашых паўночных умовах, апрача валакна, дасьць упаўне вызраваючае насеньне. Гэта, аднак, не павінна выключаць таго (дыфэрэнцыраванага) напрамку ў культуры канаплі, пры якім вазьдзелываньне на валакно абасабляецца ад зернавой прадукцыі. Праімушчэства падобнай пастаноўкі справы заключаюцца ў тым, што ў гэтым выпадку на балотах можа мець месца болей позьні пасеў, калі мінуюць шкодныя для канаплі ранішнікі, гушчыня высева, благапрыятствуюшчая для выхаду валакна, павялічана, а ўборка ажыцьцяўляецца адначасова для пdescribed поскані і матэркі, павялічыў агульную масу і дазволіў, прыстасаваньнем машын, мэханізаваць самую ўборку. Гэтым, у першую чаргу, скарачаюцца каштоўныя затраты на ўборку, а валакно, як болей тонкае, расцэньваецца вышэй і, апрача таго, лягчэй адлучаецца ад сьцябла.

Якія-ж пэрспэктывы скарыстаньня канапель? Асноўным прадуктам культуры, апрача зерня і кастры, зьяўляецца валакно (замашка і пянька). Зерне канапель даюць, як вядома, каштоўны канапляны алей, а кастра (звычайна выкідаецца) можа быць скарыстана ў прасьцейшым выпадку, як апал. Але не выключаецца магчымасьць, пры масавым яе скапленьні, скарыстаньня для папяровай прамысловасьці і штучнага шоўку, дзякуючы таму, што яна мае ў сабе да 60 проц. цэлюлёзы (глядзі працу праф. Рабава). Асноўны-ж прадукт, як упаміналася ўжо, гэта даўгое валакно—пянька, з якой выраблякоць канаты, шпагат і вяроўкі, і толькі невялікі процант перапрацоўваецца машынным шляхам на больш тонкія нумары пяньковага прадзіва.

Досьледы трэсту, „Тэхнаткань“, па выпрацоўцы пяньковай і паўпяньковай пражы, кажуць аб тым, што валокны канапель могуць быць скарыстаны ня толькі для грубых вырабаў (канаты, вяроўкі). Германія ўжо стала на гэты шлях, і выробляе, дзякуючы катанізацыі валакон, паўпяньковае прадзіва. Таксама наш Навукова-Тэхнічны Савет лубяных валакон прызнаў, што ў першую чаргу поскань, а потым і пянька павінны быць скарыстаны больш рацыянальна, гэта значыць на вырабы сетак і тканіну, палажэньне аб чым знаходзіць адбітак і ў пяцігадовым пляне прамысловасьці.

Канаплі, як культура прамыслова-тэхнічная, як высока даходная культура, бязумоўна адыграе на Беларусі важную ролю. Узяты ў сельскай гаспадарцы курс на індустрыялізацыю і мэханізацыю знойдзе ў культуры канапель належную базу, бо заводзкі спосаб апрацоўкі валакна (цеплавая мочка, мэханізацыя працэсаў мяцьця і трапаньня) ажыцьцяўляецца і маюцца ўжо канструкцыйныя тыпы заводаў па пярвічнай апрацоўцы сьцябла канапель.

У заключэньне неабходна падкрэсьліць наступнае:

1. Па даным нашых дасьледчых устаноў і замежнай практыкі, прапаганда культуры канапель на балотах павінна быць пастаўлена шырока шляхам ня толькі друку, але і паказальным.

2. Шырокае распаўсюджаньне культуры канапель на асушаных балотах мэліорацыйных т-ваў і на масавых землях калфонду дазволіць скарыстаць перавагу завадзкой апрацоўкі сьцябла і навейшыя дасягненьні ў галіне ўтылізацыі ўсіх прадуктаў, ад валакна да кастры, стварыўшы ў той-жа час прадпасылкі для індустрыялізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці і стымулы да вытворчага каапэраваньня.

3. Масавая і рацыянальная пастаноўка культуры канапель, нават у нашых умовах, вызначае патрэбнасьць арганізацыі шырокай дасьледчай работы на балотных станцыях і палёх, работы асьвятляючай пытаньне тэхнікі яе апрацоўкі потым, вывучэньне асаблівасьцяй валакна паасобных гатункаў канапель на балотах, вывучэньне ўплыву на гэтыя гатункі фактараў росту і спосабаў пярвічнай апрацоўкі.

4. Адначасова з Наркамземам і прамысловыя ўстановы, у першую чаргу ВСНГ, павінны зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на культуру канапель ва ўмовах БССР.

**А. Шохар.**



# КАЛГАСНЫЯ ЛІСТЫ.

## Пакуль трактара няма, не забывай вала і каня.

З кожным днём колькасьць калгасаў расьце і расьце, ахоплівае цэлыя раёны суцэльная калектывізацыя. За беднатой у калгасы пашлі сераднякі. Калектывізацыя стала рухам мільённых мас сялянства. Але разам з гэтым посьпехам будуць сустракацца і цяжкасьці.

Усе калгасьнікі і саветы калгасаў едуць і ідуць па трактары. Кожны з іх зразумеў, што трактар ёсьць тая машына, якая капае магілу старой, дробнай гаспадарцы. Але ня кожны з іх мусіць ведае, што гэтых машын, дзякуючы шпаркаму тэмпу калектывізацыі, будзе не хапаць і асабліва—у с.-г. кампанію бягучага году. А адсюль, зразумела, трэба *больш увагі аддаваць сваёй цягавай сіле, волікам і конікам.*

Калі ў таго ці іншага селяніна, які ўночы стараецца прадаць свайго каня ці вала і карову, запытаеш, навошта ён гэта робіць, дык часта можна чуць такі адказ:—„навошта ў калгасе гэтае ламачча... Нам вясной трактар усё паарэ, а кароў мы завадзкіх купім“...

І можна бачыць, як сяляне зусім дармова збываюць сваю жывёлу спэкулянту-прыватніку, які адганяе яе за 20-30 кілёмэтраў і прадае ў калгасы і саўгасы, бяручы ў два-тры разы даражэй.

Кожны селянін-калгасьнік, разбазарваючы жывёлу, робіць вялікае злачынства ня толькі перад калгасам, але і перад дзяржавай.

Пры арганізацыі буйных калгасаў неабходна больш рашуча ставіць пытаньне аб найлепшым скарыстаньні жывой цягавай сілы. А калі гэтай цягавай сілы будуць лішкі, дык трэба збываць яе арганізавана праз калгассаюз, які разьмяркуе гэтую сілу паміж калгасамі іншых раёнаў.

Пакуль прыдзе трактар, падрыхтуйце, як сьлед, сваю жывую цягавую сілу, каб веснавая с.-г. кампанія прашла ў нас з такім посьпехам, якога яшчэ ня было да гэтага часу.

Пакуль трактара няма, не забывай вала і каня.

Рудабелка, Глуск. р., Бабр. акр. **Алесь Дымкоў.**

---

## Дапамагаем калектывізацыі.

*(Спэц. карэспандэнт).*

Аршанскі чыгуначны вучастак МББ чыг. зараз шэфствуе над Талачынскім раёнам, Аршанскай акругі, Магілеўскім раёнам, Магілеўскай акругі і над Кардымаўскім сельсаветам, Смаленскага раёну, Заходняй вобласьці. Усю сваю працу шэфскае таварыства цяпер перабудавала. Раней шэфствавалі над некалькімі сельсаветамі, але сталай, сыстэматыч-

най плянавай працы там не вялося. У падшэфныя сельсаветы рабіліся толькі кампанейскія наезды, распыляліся сродкі і сілы і, дзякуючы гэтаму, ня было ніякіх бачных вынікаў працы. Зараз зусім іншае. Перш за ўсё зараз уся шэфская праца мае напрамак на сацыялістычную перабудову вёскі. У сувязі з гэтым у падшэфныя раёны пасланы брыгады рабочых. І вынікі шэфскай працы ўжо ёсьць. Арганізавана ў падшэфных раёнах 19 калгасаў, у якія ўступіла 63 чыгуначнікі, якія маюць сувязь з сельскай гаспадаркай. У 11 вёсках падшэфных раёнаў праведзена падрыхтоўчая праца да калектывізацыі. Тут запісалася звыш двухсот двароў у калгасы.

Узмоцненая праца зараз разгарнулася ў Талачынскім раёне на Аршаншчыне. Талачынскі і Навасельскі сельсаветы гэтага раёну цалкам калектывізаваны толькі дзякуючы дапамозе чыгуначнікаў. Мархлеўскі, Азерацкі, Славенскі, Еўлахаўскі і Волкаўскі сельсаветы так сама амаль ужо поўнасьцю калектывізаваны. Адзін калгас у Талачынскім раёне арганізаваўся на плошчы 7000 *га*, у які ўвайшло 28 паселішчаў. У васьмі калгасах абагулены сродкі вытворчасьці і насеньне. Дзякуючы растлумачальнай працы чыгуначнікаў, у адным з сельсаветаў Талачынскага раёну сяляне пастанавілі зачыніць царкву і скарыстаць яе пад хату-чытальню. Адначасова з гэтым, чыгуначнікі дапамагаюць мясцовым арганізацыям праводзіць раскулачваньне кулакоў.

Старшыня Талачынскага райвыканкому з захапленьнем гаварыў аб працы чыгуначнікаў у яго раёне па правядзеньню калектывізацыі. „Зараз, кажа ён, з дапамогай шэфаў раён ужо калектывізаваны на 65%. Зразумела, што без дапамогі шэфаў—рабочых, мы-б гэтага не зрабілі“.

І гэта праўда. Рабочыя чыгуначнікі ня толькі дапамагаюць калектывізаваць вёску, але і самі, маючы сувязь з сельскай гаспадаркай, таксама запісваюцца ў калгасы. Тых-жа, як гэта было нядаўна на ст. Прыяміна, хто мае сельскую гаспадарку і ня хоча запісвацца ў калгас, рабочыя выключаюць з прафсаюзу.

Рабочыя станцыі Магілеў абвясьцілі сябе ўдарнымі па правядзеньню калектывізацыі ў сваім падшэфным Магілеўскім раене. Магілеўцы нядаўна атрымалі прэмію (вучастак цягі) за лепшае выкананьне памернікаў па сацыялістычнаму спаборніцтву ў мінулым 1929 г. Прэмію ім далі ў суме 3500 руб. і цягавікі парашылі гэтыя грошы перадаць на закупку трактараў для свайго падшэфнага раёну. Наогул-жа збор сродкаў на трактары шэфамі праводзіцца ўсюды.

Вось як праходзіць пачатак працы рабочых чыгуначнікаў па перабудове вёскі на сацыялістычны лад. Гэты пачатак гаворыць, што чыгуначнікі выканаюць усе пастаўленыя перад імі задачы ў гэтым напрамку.

**А. Мілашэўскі.**

---

## Што сказала канфэрэнцыя Шклоўшчыны.

Канфэрэнцыя асьветнікаў Шклоўшчыны, якая адбылася 15 студзеня, падводзіла вынікі ўдзелу асьветнікаў у калектывізацыі вёскі. Па дакладу: „Асьветаўцы і суцэльная калектывізацыя“, які рабіў старшыня земчасткі Шах, былі разгорнуты спрэчкі; асьветаўцы дзяліліся вопытам і выяўлялі недахопы працы. У часе спрэчак высьветлілася, што асьветаўцы Шклоўшчыны ў агульнай сваёй масе працуюць пад

кіраўніцтвам камуністычнай партыі і памагаюць калектывізаваць вёску. Аб гэтым гаворыць і тое, што з 122 чалавек вясковага настаўніцтва 75 уступіла ў калгасы. Маюцца камуны, як Чырвоны Кастрычнік“ Чорнаруцкага с.-с., дзе старшынёю настаўнік Калтанюк. Камуна гэта аб'яднае некалькі вёсак на плошчы 4 000 *га*.

Але-ж ёсьць асобныя адзінкі сярод настаўніцтва, якія ня толькі не дапамагаюць праводзіць калектывізацыю, а, наадварот, шкодзяць. Вось прыклад: настаўнік Зянькевіч, Ромшынскай школы, гаворыць сялянам: „ня пойдзеце, дык калгасу ня будзе“. Настаўнік Шылаў, Серцілаўскай школы, не разумее ролі настаўніка ў калгасе. На адным з сходаў настаўнікаў свайго аб'яднаньня ён сказаў: „Калгас забярэ маю зарплату, дык мне так, як сялянам, патрэбна лапці надзець“.

Поруч з гэтым ёсьць адзінкі-настаўнікі, якія не разумеюць лініі партыі ў адносінах да кулацкіх гаспадарак, якіх ня толькі ня трэба прымаць у калгасы, а трэба ліквідаваць як клясу. Настаўнік Грамакоўскі, Каменскай школы, стараецца, каб сям'ю кулака прынялі ў калгас, а таксама складае прыгавар з мэтаю вызваленьня гэтага кулака з турмы. Настаўніца Гарлоўская зьвязалася з кулакамі. У парадку крытыкі і самакрытыкі ўсе гэтыя моманты былі выкрыты, і канфэрэнцыя рашуча асудзіла паводзіны асобных настаўнікаў. Акрамя гэтага, намечана, як весьці ня толькі арганізацыйную, але і культ-асьветную працу ў калгасах. Пастаноўлена было, каб настаўнікі, якія яшчэ ня ўступілі ў калгасы, уступіць зараз, а калі няма калгасу ў той вёсцы, старацца арганізаваць.

Для большага азнаямленьня з правядзеньнем калектывізацыі і для практычнае працы асьветаўцы Шклоўшчыны парашылі выпісаць часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ і ўзяліся распаўсюджваць яго сярод насельніцтва. Была прынята канфэрэнцыяй пастанова аб 100 проц. падпісцы на заём калектывізацыі і прыняць 2 проц. на трактарную калёну.

У канцы канфэрэнцыі была ўнесена прапанова, каб настаўнікі і настаўніцы здалі ў фонд індустрыялізацыі залатыя ці сярэбраныя пярсьцёнкі, завушніцы. Гучнымі воплескамі сустрэла настаўніцтва гэту прапанову і пачалі здаваць.

Першай здала Карначэнка, настаўніца Заровіцкай школы, потым Пінус, яўрэйскай, і Крапівенская, Заходзкай.

Пастанавілі праз друк выклікаць да такой-жа справы і Быхаўскіх асьветаўцаў.

**Ш.**

---

**„Прадукцыйнасьць працы—гэта самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“.** ЛЕНІН.

## За зьніжэньне сабекошту прадуктаў у сельскай гаспадарцы.

Задача зьніжэньня сабекошту прадукцыі ў прамысловасьці стаіць як адна з самых асноўных і важных задач. Гэтая-ж самая задача зьніжэньня сабекошту прадуктаў у такой-жа меры стаіць і ў сельскай гаспадарцы, асабліва ў саўгасах і калгасах.

*У сучасны момант,*—піша тав. Сталін у брашуры аб правым ухіле ў УсеКП(б)—*у сувязі з новымі задачамі рэканструкцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на базе сацыялізму, узьнік лёзунг аб сыстэматычным зьніжэньні сабекошту.*

У прамысловасьці гэты лёзунг зьвярнуў на сябе ўвагу прафэсыйных і адміністрацыйных органаў, а ў галіне сельскай гаспадаркі, у саўгасах і калгасах, ён яшчэ і да гэтага часу не зьяўляецца баявым лёзунгам усяе працы.

*А між тым*—піша тав. Сталін у тэй-жа брашуры—ясна, што гэтыя лёзунгі (сюды ён уключае і лёзунг аб зьніжэньні сабекошту—*А. С.*)—*зьяўляюцца самымі неабходнымі і актуальнымі лёзунгамі партыі ў даны момант.*

На жаль, ні мэтодыка, ні тэхніка праблемы сабекошту сельскагаспадарчых прадуктаў яшчэ не распрацованы. Нават у нас няма простых зводак руху сабекошту прадуктаў па гадох. Таксама няма параўнаньня сабекошту прадуктаў у саўгасах з сабекоштам прадуктаў у калгасах і ў сялянскіх гаспадарках.

Гэта зьяўляецца вялікім недахопам.

Па якіх-жа асноўных напрамках павінна пайсьці праца, каб мець сыстэматычнае зьніжэньне сабекошту?

Яны павінны быць наступныя:

1) Усямерна павялічваць вытворчасьць працы. Назіраецца, што ў некаторых саўгасах і калгасах вытворчасьць працы надзвычайна нізкая, што часткова тлумачыцца дрэннай арганізацыяй яе. Напрыклад, у саўгасах Беларусі вытворчасьць працы па бульбе ў розных саўгасах вагаецца ад 0,22 руб. да 5,63 руб. і нават у некаторых вышэй у дзень. Розьніца вельмі вялікая, каб на яе не зьвяртаць увагу, бо сабекошт прадуктаў, як вядома, знаходзіцца ў адваротнай сувязі з вытворчасьцю працы. Чым большая вытворчасьць працы, тым сабекошт ніжэй.

2) Мажліва больш скарачаць нявытворчыя выдаткі, як, напрыклад, агульныя выдаткі, якія да гэтага часу яшчэ ў некаторых саўгасах даходзяць да 60,3 проц. ад усіх затрат на 1 *га*. Гэта зьяўляецца адмоўным бокам працы некаторых саўгасаў і калгасаў. Таму задача зьніжэньня накладных выдаткаў у сельскай гаспадарцы зьяўляецца важнейшай задачай у справе зьніжэньня сабекошту, бо чым у большым процанце накладныя выдаткі падаюць на тую ці іншую культуру, тым сабекошт вышэй і наадварот.

3) Саўгасным і калгасным гаспадаркам старацца менш наймаць падзёньнікаў і больш абыходзіцца сваёй пастаяннай працоўнай сілай. Наглядаецца, што тыя гаспадаркі і, у прыватнасьці, саўгасы, якія наймалі больш падзёньнікаў, гэтыя-ж гаспадаркі мелі і большы сабекошт прадуктаў, таму што падзёньнікі даюць вельмі малую вытворчасьць працы і, ня гледзячы на тое, што падзённая працоўная сіла нібы-та, здаецца, танная, усё-ж сабекошт у гэтых групах гаспадарак павялічваецца.

4) Павінны быць прыняты ўсе меры да павялічэньня ўраджайнасьці, бо чым большая ўраджайнасьць культуры, тым сабекошт ніжэй.

5) Такая-ж самая залежнасьць наглядаецца з велічынёй сабекошту ў сувязі з рознай велічынёй засеўнай плошчы. Чым большая велічыня засеўнай плошчы пад тую ці іншую культуру, тым сабекошт ніжэй. Фактычна гэты паказальнік сьведчыць аб мэтазгоднасьці спэцыялізацыі асобных гаспадарак, і, нарэшце,

6) Чым большая моцнасьць гаспадарак саўгасаў ці камун, тым сабекошт ніжэй і, наадварот, у гаспадарках малай моцнасьці сабекошт прадукту вышэй.

Такія асноўныя шляхі зьніжэньня сабекошту прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Лёзунг зьніжэньня сабекошту ў саўгасах і калгасах павінен быць настолькі-ж важным і баявым, як і ў прамысловасьці.

**А. М. Сермяжка.**

---

# Першая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці.

Улетку 1930 г., згодна пастановы ўраду БССР, у г. Менску адчыніцца 1-ая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Гэтая выстаўка арганізуецца ў часе шырока разгорнутага працэсу сацыялістычнага будаўніцтва, загэтым дзьве галоўныя ідэі пакладзены ў аснову арганізацыі Выстаўкі.

Першая—гэта паказаць ролю індустрыялізацыі ў перабудове сельскае гаспадаркі, прычым трэба паказаць вядучую ролю індустрыі такім чынам, каб кожны селянін вышаў пасьля абгляду Выстаўкі ўпэўненым, што без таго, пакуль наша прамысловасьць ня стане фактычным кіраўніком сельскае гаспадаркі—нам з жабрацтва ня вылезьці, нам з худога каня на машыну не пересесьці.

Другая ідэя—гэта аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі і паказаньне працэсу пераходу ад раздробленай адсталай індывідуальнай гаспадаркі да буйнага зямлякарыстаньня.

Наша задача—упэўніць селяніна праз выстаўку, што выхад з жабрацтва, у якім яшчэ знаходзіцца ён з сваёй гаспадаркай, і шляхі яго ўздыму знаходзяцца ў пераходзе ад карлікавай гаспадаркі да буйнага земляробства.

У зьвязку з усім гэтым Выстаўка павінна быць школай індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, якая-б магла дапамагчы самым шырокім рабочым і бядняцка-серадняцкім масам насельніцтва пасьпяхова выканаць пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва народнае гаспадаркі БССР, падняўшы яе на належную культурную і тэхнічную вышыню, зрабіўшы яе моцнай сацыялістычнай гаспадаркай і гэтым самым значна палепшыць культурныя, бытавыя і матар'яльныя ўмовы працоўных мас.

Ва ўмовах Беларусі, як прымежнай Рэспублікі Саветаў, наша Выстаўка павінна таксама ілюстраваць барацьбу рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ўсіх нацыянальнасьцяй пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі за вызваленьне ад улады капіталістых і адначасова Выстаўка павінна адбіць дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва.

1-ая Ўсебеларуская Выстаўка павінна паказаць усім працоўным, што вызваленьне Беларусі ад абшарнікаў і капіталістых, утварэньне савецкай улады, улады дыктатуры пролетарыяту, забясьпечыла магчымасьць шырокага разгортваньня гаспадарчага і культурнага разьвіцьця нашае краіны.

Выстаўка павінна паказаць усім працоўным Беларусі матар'яльныя магчымасьці нашае краіны для пабудовы сацыялізму, яна павінна яскрава падкрэсьліць, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны, праз сацыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, шляхам яе калектывізацыі, Савецкая Беларусь зможа вырашыць задачу перамогі сацыялізму.

Вось з гэтае прычыны Выстаўка мае вялікае палітычнае і эканамічнае значэньне.

Для таго, каб урачыста адзначыць дзень вызваленьня Беларусі ад капіталістых і абшарнікаў, II-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту V-га скліканьня ўхваліла прыстасаваць урачыстае адчыненьне выстаўкі ка дню 10-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад акупантаў.

Выстаўка мае мэтай паказаць усё тое, што ў нас ёсьць лепшага, усе нашы дасягненьні. Дзеля таго, каб паказаць экспанаты ў натуральных умовах, умовах самога вытворчага процэсу, каб выстаўка была больш зразумелай і паказальнай для мас рабочых і сялян, месца пад Выстаўку абрана ў асяродку вопытна-паказальных дасьледчых станцый НДІ, каля г. Менску, па Барысаўскаму тракту.

Пад выстаўку адведзена плошча ў 75 *га*, на якой будуць дэманстравацца жывыя пасевы і пасадкі, як, напрыклад: 18 шматпалёвых севазваротаў, на плошчы 9 *га*, гароднія і новыя культуры на плошчы 2 *га*, пладовы сад на плошчы ў 6 *га*, ягадныя кусты, суніца, пладовы гадавальнік, гадавальнік сэлекцыйнага матар'ялу азімых і яравых, дэманстрацыя ўплыву розных штучных угнаеньняў на ўраджай зернавых, корань і клубняплодаў і лёну. Будзе паказана плошча па кормаздабываньню з пасевамі адпаведных траў. Значная плошча адведзена машынаспробнай станцыі, якая пакажа ў дзеяньні розныя тыпы машын і прыладаў і іх практычнае ўжываньне ў гаспадарцы.

Выстаўка будзе складацца з наступных аддзелаў:

1. Прамысловасьці (рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай).
2. Аграмаджаны сэктар с.-г.
3. Мэханізацыі і электрыфікацыі с.-г.
4. Працы і быту
5. Дарожнае гаспадаркі
6. Камунальнае гаспадаркі
7. Навукова-асьветнага
8. Земляробства (расьлінагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва)
9. Жывёлагадоўлі, малочнае г-кі і вэтэрынарыі
10. Лясной гаспадаркі і паляваньня
11. Зямляўпарадкаваньня і сельбудаўніцтва
12. Мэліорацыі, культуры балот і торфу
13. Рыбнае гаспадаркі
14. Дамаводзтва і быту ў с.-г.
15. Аддзел нацменшасьцяй
16. Экспорту, імпорту і гандлю.

Усе гэтыя аддзелы будуць разьмешчаны ў 40 павільёнах. Гэтымі аддзеламі будзе ахоплена ўся народная гаспадарка і культура БССР, чаму выстаўка і зьявіцца школай для працоўных мас, дзе на кожнае запытаньне можна будзе знайсьці адказ.

Ставячы перад сабой такія вялікія мэты, выстаўка дасягне іх толькі тады, калі яна будзе мець масавы характар, калі з ёю пазнаёмяцца шырокія масы рабочых і сялян. Вось чаму Галоўны Выставачны Камітэт і вынес пастанову аб неабходнасьці правядзеньня арганізаваных экскурсій працоўных мас на 1 Усебеларускую Выстаўку, для азнаямленьня апошніх як з усімі дасягненьнямі Беларусі за 10 год, так і з тымі шляхамі, па якім пойдзе далейшае разьвіцьцё народнай гаспадаркі. Мяркуецца за час існаваньня Выстаўкі прапусьціць 50.000 чалавек у арганізаваным парадку.

Каб даць магчымасьць удзельнічаць у экскурсіях на Выстаўку бядняцкай частцы насельніцтва, Урад пайшоў на ўстанаўленьне для экскурсантаў значных ільгот, якія будуць дыфэрэнцыраваны ад скідкі ў разьмеры 50 проц. чыгуначнага тарыфу да аплаты ўсіх выдаткаў, зьвязаных з удзельнічаньнем у экскурсіі, прычым ільготы будуць прадстаўляцца на мясцох Рай і Акр. Выстаўкомамі ў залежнасьці ад матар'яльнай забясьпечанасьці той ці іншай групы насельніцтва.

Рай і Акр. Выстаўкомы шырока азнаёмяць насельніцтва аб часе экскурсій, прычым будзе аб'яўлен тэрмін прыёму заяў ад асоб, жадаючых прыняць удзел у экскурсіях.

Адначасова з гэтым трэба мабілізаваць самадзейнасьць мясцовых арганізацый у справе адшуканьня сродкаў для правядзеньня экскурсій. Абмежавацца толькі сродкамі, якія вылучыў для гэтай справы ўрад— ніяк немагчыма. Трэба вакол гэтага пытаньня завастрыць увагу нашых каапэрацыйных арганізацый, шэфтаварыстваў і інш. грамадзкіх арганізацый, якія павінны ўзяць на сябе абавязкі пасылаць пэўную колькасьць экскурсантаў за свой кошт. Грошы на такую справу павінны знайсьціся. Трэба ўсё культурнае абслугоўваньне вёскі ўвязаць і падпарадкаваць мэтам Выстаўкі.

Уся праца ў гэтай галіне ўсіх каапэрацыйных сыстэм і шэфскіх арганізацый павінна быць пабудавана пад гэтым пунктам погляду.

Тады мы, напэўна, зможам павялічыць і агульны лік экскурсантаў, што будзе вельмі карысна.

Пакуль што мяркуецца прапусьціць праз Выстаўку 50.000 чалавек. З гэтай колькасьці ўзялі на сябе абавязак правесьці за свой кошт

ЦСПСБ 4.000 рабочых і Ваенвед 2.000 чырвонаармейцаў. Астатняя колькасьць 44.000 чал. разьмяркована Дырэкцыяй Выстаўкі па акругах, выходзячы з удзельнай вагі акруг. Лічбы разьмеркаваньня такія:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Менская акруга пасылае | 7.480 чал. | Магілеўская акруга пасылае | 7.480 чал. |
| Мазырская „ „ | 3.520 „ | Аршанская „ „ | 5.280 „ |
| Бабруйская „ „ | 6.160 „ | Віцебская „ „ | 4.840 „ |
| Гомельская „ „ | 5.720 „ | Полацкая „ „ | 3.520 „ |

Акрвыстаўкомы, на якіх ускладаецца арганізацыя экскурсій у акрузе, разьмяркоўваюць устаноўленую для іх лічбу па раёнах, выходзячы з удзельнай вагі раёнаў, прычым з усёй агульнай колькасьці мяркуецца адвесьці:

1) калгасьнікам . . . . . . 35%
2) саюзу с.-г. рабоч. (для рабочых саўгасаў, батракоў і лясных рабочых) . . . . . 10 „
3) вучням і вясков. інтэл. . . . . . 10 „
4) сябрам саматужн. каап. . . . . 5 „
5) сялянам (з якіх КСМ 10%) . . . . 40 „

Экскурсіі на Выстаўку разьлічаны на 3 дні, ня лічачы часу падарожжа.

У мэтах дэманстраваньня пэўнай змычкі працоўных гораду з працоўнымі вёскі, прафэсыйныя саюзы г. Менску ўзялі шэфства над экскурсантамі сялянамі, чаму экскурсанты на час абгляду Выстаўкі будуць разьмяшчацца на кватэрах рабочых і служачых. Гэта жывая сувязь дасьць належны палітычны эфэкт, бо працоўныя гораду і вёскі змогуць азнаёміцца друг друга ў жывой гутарцы са сваім жыцьцём, бытам і г. д. Ад таго, як мы падрыхтуемся да выкананьня гэтай важнай з палітычнага боку справы, залежыць яе посьпех; пры гэтым трэба мець на ўвазе, што з тэхнічнага боку пасьпяховае правядзеньне шэфства прафсаюзаў над сялянамі на час Выстаўкі—справа даволі складаная, чаму і рыхтавацца да яе трэба вельмі сур'ёзна і, каб ня губіць марна часу, трэба прыступіць да падрыхтоўкі ўжо зараз.

Таму трэба вакол пытаньня арганізацыі экскурсій на Выстаўку стварыць грамадзкую думку, правесьці растлумачальную працу сярод рабочых і сялян, што кожны рабочы і селянін ня толькі-б ведаў аб Выстаўцы, а жадаў-бы ў той ці іншай меры прыняць у ёй удзел.

Толькі тады, калі мы мабілізуем вакол гэтай справы ўсё жывое, калі мы мабілізуем вакол гэтага пытаньня шырокія пласты працоўнага насельніцтва, мы справімся як з арганізацыяй самой Выстаўкі, так і з правядзеньнем арганізаванай экскурсіі на яе.

Надаючы Выстаўцы вялізарнейшае палітычнае і эканамічнае значэньне, неабходна ўзяць пад грамадзкі кантроль падрыхтоўчую справу да Выстаўкі. Трэба, каб лёзунг: „Рыхтуйся да Выстаўкі“ выконваўся ўсімі і кожным на 100 проц.

Л. Таўкач.

---

# Больш увагі арганізацыі вучоту ў калгасах.

Бурны калгасны рух сярод бядняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі, які пачаўся пасьля XV зьезду УсеКП(б), увесь час разгортваецца ўсё з больш нарастаючым тэмпам. На 1/X—28 г. у БССР было 994 калгасы з зямельнай плошчай 94.450 *га*, на 1/I—29 г. ужо 1.713 калгасаў на плошчы 336.720 *га* і на 15/I—30 г.—3.040 на плошчы 2.660.000 *га*, што складае ў сярэднім 35 проц. ад усей зямельнай плошчы па БССР. Побач з бурным ростам новых калгасаў ідзе шпаркае ўзбуйненьне ўжо існуючых калгасаў шляхам далучэньня да іх цэлых вёсак і паселішч. Сярэдні разьмер зямельнай плошчы аднаго калгасу на 1/X—28 г. быў 95,0 *га*, на 1/X—29 г. ужо каля 200,0, на 15/I—30 г. 875,0 *га*. Калгасны рух з мінулага году пачаў набываць новыя, яшчэ нябачаныя да гэтага часу формы. Шэраг калгасаў у сучасны момант складаецца з дзесяткаў тысяч *га*. Пачалася пабудова 2-х аграіндустрыяльных калгасаў-камбінатаў на плошчы 80—100 тысяч *га* кожны. Шэраг раёнаў ужо калектывізаваны на 100 проц.; абвешчана суцэльная калектывізацыя Магілеўскай акругі і 32 раёнаў іншых акруг.

Сучасны тэмп калгаснага руху паказвае, што суцэльная калектывізацыя сялянскай гаспадаркі ў БССР будзе скончана на працягу $1^1/_2$—2 год.

Арганізацыя вучоту і рахункаводзтва, ва ўмовах масавага калгаснага руху, бязумоўна, набывае вялізарнае значэньне, як з пункту погляду арганізацыйнага замацаваньня нова-арганізаваных калгасаў, дзе побач з абагуленьнем сродкаў вытворчасьці і працы, аб'яднаньнем маемасьці і працоўных інтарэсаў многіх соцен асоб—членаў адзінага працоўнага калектыву, што патрабуе вялікай чоткасьці і яскравасьці ва ўзаемных разьліках, так і з пункту гледжаньня запатрабаваньняў рацыянальнай арганізацыі буйнай сацыялістычнай с.-г. вытворчасьці на грунце плянавасьці.

Між тым сучаснае становішча вучоту і справаздачнасьці ў калгасах вельмі няздавальняючае.

Па становішчу на 1/X—29 г. мелі больш-менш адпаведны вучот усяго каля 70 проц. агульнай колькасьці калгасаў. Рахункаводзтва ў пераважнай большасьці калгасаў вядзецца па простай сыстэме. Двайная сыстэма вучоту ўжываецца ня больш як у 10 проц. агульнай колькасьці калгасаў. Пастаноўка вучоту ў значнай частцы калгасаў не дазваляе скласьці належнай гадовай справаздачнасьці і балянсу. Апошнія складаюцца статыстычным мэтадам і мэтадам інвэнтарызацыі. Афармленьне вучоту належнымі дакумантамі таксама ў значнай частцы калгасаў нездавальняючае.

Галоўныя прычыны гэтых недахопаў наступныя:

а) адсутнасьць да апошняга часу выпрацаванай інструкцыі па арганізацыі і вядзеньню вучоту і справаздачнасьці ў калгасах;

б) адсутнасьць дастатковай колькасьці кваліфікаваных працаўнікоў па вучоту і рахункаводзтву і слабая іх падрыхтоўка. Дробныя калгасы ў шмат выпадках ня мелі магчымасьці ўтрымліваць кваліфікаваных працаўнікоў па вучоту;

в) вельмі слабае абслугоўваньне калгасаў у гэтай справе з боку калгассаюзаў. У калгассаюзах да апошняга часу адсутнічаў неабходны для гэтага інструктарскі апарат;

г) амаль-што адсутнічае дапамога і асабліва да апошняга году калгасам у гэтай справе і з боку прафэсіянальных і інш. грамадзкіх арга-

нізацый. Калгассыстэмай у сучасны момант пытаньню арганізацыі вучоту і справаздачнасьці ў калгасах надаецца вялікая ўвага. Па ўсіх акругах праведзены 2-месячныя курсы па перападрыхтоўцы рахункаводаў, праз якія прапушчана 350 асоб. Ствараецца адпаведны інструктарскі апарат па арганізацыі вучоту і справаздачнасьці ў калгасах як у цэнтры, гэтак і па акругах.

Узмацнілася ўвага да арганізацыі вучоту ў калгасах і з боку грамадзкіх і прафэсыянальных арганізацый. Пасылаюцца ў калгасы і пераважна ў раёны суцэльнай калектывізацый, куст. аб'яднаньні і агракамбінаты—200 працаўнікоў-рахункаводаў на сталую працу і 460 на часовую (на 1—2 мес.) у парадку добраахвотнай мобілізацыі.

Але ўсё гэта ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі не здавальняе запатрабаваньня рацыянальнай арганізацыі вучоту і справаздачнасьці. Патрабуецца значна большая ўвага да гэтага пытаньня як з боку калгассыстэмы, так і прафарганізацый і ўсёй савецкай грамадзкасьці.

У сучасны момант на мясцох шырока разгортваецца абагуленьне маемасьці ў нова-арганізаваных калгасах, а таксама пачынаецца справаздачная кампанія. Каб пасьпяхова правесьці гэту працу, трэба зараз-жа паслаць у калгасы як на сталую працу, так і на часовую, здавальняючую колькасьць вучотных працаўнікоў.

Патрэбнасьць калгасаў у кваліфікаваных працаўніках па вучоту шпарка ўзрастае: у 1932-33 годзе калгасам трэба будзе паслаць 600 кваліфікаваных бухгальтароў, 4.200 рахункаводаў і 3.600 статыстыкаў. Неабходна зараз-жа распачаць падрыхтоўку гэтых кадраў, а таксама і перападрыхтоўку існуючых. Цэнтр. і мясцовым бюро ОРУ неабходна аказаць калгассыстэме падтрымку ў стварэньні кадраў па вучоту.

Побач з укамплектаваньнем апарату калгассыстэмы неабходна хутчэй дапамагчы калгасам у справе арганізацыі вучоту і з боку савецкай грамадзкасьці і асабліва арганізацый ОРУ праз разгортваньне сталага шэфства, пасылкі спэцыяльных і ўдарных брыгад, узмацненьне сталай сувязі ОРУ з калгасаб'яднаньнямі і праз арганізацыю сыстэматычнай кансультацыі па пытаньнях арганізацыі вучоту ў калгасах пры ўсіх бюро ОРУ.

Існуючая ў сучасны момант сыстэма рахункаводзтва ў калгасах таксама не здавальняе запатрабаваньням рацыянальнай арганізацыі вучоту, асабліва ў буйных калгасах. Пры распрацоўцы гэтага пытаньня неабходна максымальна ўлічваць спрашчэньне форм вучоту, а таксама прыстасоўваць іх да асноўных напрамкаў калгаснай гаспадаркі. Разам з прапрацоўкай пытаньня арганізацыі вучоту непасрэдна ў калгасах і агракамбінатах, неабходна распрацаваць парадак і формы вучоту і справаздачнасьці для куставых аб'яднаньняў калгасаў і райкалгассаюзаў. Прымаючы пад увагу складанасьць калгассыстэмы, найбольш мэтазгодным будзе наступны парадак справаздачнасьці: а) кожная юрыдычная адзінка (калгас, куст і райсаюз) павінна мець свой самастойны балянс; у паасобных-жа эканоміях буйных калгасаў і агракамбінатаў вядзецца толькі папярэдні падлік па формах агульнай бухгальтэрыі і ў вызначаныя тэрміны перасылаецца ў кантору калгасу. Каса ў такіх выпадках таксама павінна быць адзіная. Сводка і распрацоўка справаздач і балянсаў паасобных калгасаў, у мэтах спрашчэньня справаздачнасьці, павінна паступова дэцэнтралізавацца. Калгас прадстаўляе справаздачу і балянсы непасрэдна таму аб'яднаньню, членам якога ён зьяўляецца (куст альбо райкалгассаюз ці ў адпаведны акруговы саюз).

Куставое аб'яднаньне прадстаўляе ў парадку свайго членства справаздачу адпаведнаму саюзу як аб сваёй дзейнасьці, так і зводную па калгасах, якія ўваходзяць у яго склад. Райкалгассаюзы даюць справаздачу адпаведным акруговым аб'яднаньням (калгассэкцыям пры спэцыяльн. саюзах с.-г. каапэр.), членам якога яны зьяўляюцца, таксама як аб сваёй працы, так і зводную па куставым аб'яднаньням і паасобным калгасам. Калгассэкцыі спэц. саюзаў с.-г. каапэрацыі даюць справаздачу адпаведным цэнтр. сэкцыям калгасаў і акркалгассаюзу. Белкалгасцэнтр атрымоўвае справаздачу як непасрэдна ад акркалгассаюзу, так і калгассэкцыі пры спэц. цэнтрах с.-г. каапэрацыі.

Разам з наладжваньнем справы вучоту неабходна ўзмацніць працу кантрольных органаў у калгасах, для чаго зараз-жа, па сканчэньні перавыбарчай кампаніі, у калгасах неабходна арганізаваць і правесьці па раёнах кароткатэрміновыя курсы-канфэрэнцыі старшынь рэўкамісій.

Для хутчэйшага наладжваньня і ўзмацненьня вучоту і кантролю ў калгасах неабходна ў тэрміновым парадку выдаць папулярныя падручнікі па гэтаму пытаньню.

Кожны рахункавод крэд. с.-г. т-ва, спажывецкага т-ва і саўгасу, павінен узяць на сябе працу па наладжваньню вучоту і справаздачнасьці ў бліжэйшых 1—2 калгасах.

**Д. Лодысеў.**

Менск, Белкалгасцэнтр.

---

# Як арганізаваны і працуе саўгас „Гігант" на Паўночным Каўказе.

Генэральная лінія Ленінскай Камуністычнай партыі зараз ужо знайшла сваё вялізарнейшае рэальнае ажыцьцяўленьне ў правядзеньні індустрыялізацыі і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі шляхам арганізацыі і пабудовы буйных саўгасаў і калгасаў з ужываньнем трактароў і буйных складаных сельскагаспадарчых машын, асабліва ў зернявых раёнах.

Арганізаваны саўгас „Гігант" знаходзіцца ў Сальскай акрузе, пры чыгуначнай станцыі „Цаліна". Ад Растову да саўгаса каля 130 кілём. Саўгас займае плошчу ў 127 тысяч гэкт. зямлі, з якое годнае пад пахаць 115 тысяч гэкт. Працяг саўгасу з поўначы на поўдзень 72 кілёмэтры і з заходу на ўсход 43 кіл. Глеба чарназемная. Глыбіня чарназему 23—25 сант. Часьць глебы саланчаковая. Сярэдняя колькасьць ападкаў у год—380—400 сант., мінімум іх 200—250 сант. Сярэдняя гадавая тэмпэратура 9,2°.

Саўгас пачаў арганізоўвацца ў канцы чэрвеня 1928 году. Да гэтага часу ніякай гаспадаркі там ня было.

Саўгасу было дадзена тады заданьне пасеяць 10.000 гэктр. азімых культур і ўзараць на зяб 50.000 гэкт. Заданьне гэта выканана так: пасеяна азім. 11.500 гэктр., у тым ліку 4.040 гэкт. азімае пшаніцы, рэшта жыта, узорана на зяб 48.450 гэктр. Апрача гэтага, трактарамі саўгасу было ўзорана насельніцтву 2.500 гэкт. на зяб па цане—7 руб. за гэктар.

Саўгас мае выключна зернявы напрамак. Ніякай жывёлы ў саўгасе ў сучасны момант няма, апроч звыш 100 верхавых коняй для перасоўкі паляводаў на палёх. Сталага севазвароту таксама няма. У такім напрамку намечана весьці гаспадарку на працягу 4-5 год, пакуль будзе

трымацца ўрадлівасьць глебы, пасьля чаго будзе ўведзены севазварот і заведзена жывёла.

Пляну ў гэтым напрамку пакуль што яшчэ няма. Галоўнай культурай у саўгасе зьяўляецца яравая пшаніца. Пад пасевам у 1929 годзе была занята плошча ў 60.287 гэкт., з якіх сабрана 549.496 цэнтнэраў збожжа. Увесь ураджай ацэнены ў 5 мільёнаў руб.

Сярэдні ўраджай усіх зернявых культур 9,12 цэнтн. (55 пуд.) з гэктару, у той час як сярэдні ўраджай па ўсёй Сальскай акрузе за апошнія 6—7 год у буйных савецкіх і каляктыўных гаспадарках дасягаў 8,3 цэнтн. з гэктара (50 пуд.). Ураджай-жа пшаніцы азімай у сялянскіх гаспадарках акругі даў у сярэднім у 1929 г. 5 цэнт. зярна, што ў два разы менш, чым у саўгасе.



Трактарная калёна на палёх саўгасу „Гігант".

Пасеў саўгасу на плошчы 51.000 *га* прызнаны гатунковым на 80 проц. Зярно саўгасу высокае якасьці і мала засьмечана. Вільготнасьць яго дасягае 7—8 проц.

Выдатак на апрацоўку глебы і пасеваў дасягае 40 руб. на гэкт., а прыборка ўраджаю, абмалот і сартаваньне—15 руб. Сюды ўваходзіць амартызацыя будынкаў, машын і г. д., адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі і інш. Саўгас лічыць, што чысты прыбытак ён атрымаў паўтара мільёна руб., што складае 25 руб. на гэкт. Сабекаштоўнасьць зярна ў сярэднім па ўсіх культурах складае 4 р. 60 кап. цэнт. (90 кап. пуд).

Праца ў полі ўвесну 1929 году пачалася 12 красавіка і цягнулася з перапынкамі, па прычыне непагоды, да 3 мая. За 9 дзён пасеяна 48.460 гэкт. У гэты час працавала 600 трактараў, 250 сеялак, 250 дзіскавых барон, 1.600 барон зіг-заг і г. д.

На трактарах працавала 1300 рулявых і 1800 чалавек на прыцапных машынах і прыладах. Праца вялася ў дзьве зьмены днём і ноччу па 10 гадзін у зьмену. У найбольш напружаны момант у саўгасе працавала да 6000 рабочых.

Уборка ўраджаю пачалася 12 ліпеня і цягнулася на працягу 16 дзён. У час уборачнае кампаніі працавала 324 трактары, 25 комбайнаў, 190 снопавязалак, 31 малатарня, 259 трактарных калёс і 170 калёс для возкі снапоў.

Малацьба на паравых малатарках пачалася 15 ліпеня і скончылася 1-га верасьня.

Увосень пасеяна 13.500 гэкт. жыта і 21.500 гэкт. азімае пшаніцы. Пад зяб узорана 80.000 гэкт.

Саўгас прадаў хлебасаюзу 400.000 цэнт. зярна, якога на 1-е верасьня адгружана 1.917 вагонаў. На насеньне для вясны 1930 г. і для патрэбы гаспадаркі застаўлена ў саўгасе 150.000 цэнт. зярна. Вось якая праца выканана і выконваецца ў гэтым годзе.

*Як арганізавана гаспадарка і як пастаўлена ў ёй праца.* Уся зямля для лепшага вучоту працы разьбіта на клеткі па 400 гэкт. у кожнай клетцы.

Увесь саўгас падзелены на 9 вучасткаў, для заведваньня якімі маецца па аднаму загадчыку, якія назіраюць за выкананьнем усёй працы па вучастку. Усе дырэктывы і распараджэньні даюцца з цэнтру.

Для працы ў полі ў вясеньнюю пасеўную кампанію было накіравана 14 брыгад, а ў вясеньнюю кампанію—11 брыгад. У кожнай брыгадзе працавала па 40—35 трактараў з неабходнымі прыцэпнымі машынамі і прыладамі. Кожнай брыгадзе адвадзіліся вучасткі зямлі і даваліся заданьні па выканьні тых ці іншых работ. У кожнай брыгадзе працавала звыш 200 чалавек. На чале брыгады стаіць брыгадзір (мэханік) і ў яго два памоцнікі, адзін палявод, якім павінен быць агроном, але за недахопам аграномаў працуюць практыканты, у палявода ў сваю чаргу ёсьць два памоцнікі. Брыгады ўвесь час жывуць і працуюць у полі і перасоўваюцца з аднаго вучастку на другі. Для жыцьця рабочых маюцца вагончыкі на колах. У адзін вагончык зьмяшчаецца 16 чалавек. Пры кожнай брыгадзе маецца паходная кухня, цыстэрны з нафтапрадуктамі, неабходны інструмант для рамонту машын і прыладаў і г. д. Некаторыя брыгады правялі ўсю вясеньнюю, уборачную і васеньнюю пасеўную кампанію на адведзеных ім вучастках зямлі. У розных мясцох саўгасу выкапаны студні, адкуль брыгады бяруць ваду. Усе брыгады зьвязаны з саўгасам палявым тэлефонам.

У сучасны момант галоўная кантора знаходзіцца пры чыгуначнай станцыі „Цаліна“, але ў хуткім часе яна пераводзіцца за 22 кілём. пры Трубяцкім палустанку, дзе заканчваецца пабудова неабходных будынкаў.

Саўгасам кіруе дырэктар, у якога ёсьць тры намесьнікі, з якіх адзін інжынэр па мэханічнай часьці. У саўгасе працуюць яшчэ 2 аграномы—інструктары, адзін агроном—насеннавод і адзін энтамолёг.

У саўгасе пабудован шэраг будынкаў і шмат іх яшчэ будуецца.

Саюзхлебам пабудаваны два элеватары, адзін з іх пры станцыі „Цаліна“, а другі пры Трубецкім паўстанку. Кожны элеватар зьмяшчае ў сабе 100.000 пуд. зярна. Элеватары прымаюць зярно калгасаў і насельніцтва.

Уся праца ў саўгасе робіцца выключна машынамі. Такая была пастаўлена перад ім мэта, з якою саўгас справіўся здавальняюча і

паказаў, што ва ўмовах Савецкага Саюзу магчыма арганізацыя буйна мэханізаваных саўгасаў.

Працай саўгасаў зацікавіліся самыя шырокія колы працоўнага сялянства, калгасы, зямельныя работнікі і г. д. У саўгас амаль што кожны дзень прыяжджаюць экскурсіі з розных канцоў нашага Саюзу. Саўгасам зацікавіліся і замежныя дзяржавы. У саўгас прыяжджалі ня толькі з Эўропы і Амэрыкі, але нават з Азіі, Аўстрыі і г. д.

Такога буйнага саўгасу няма ні ў адной замежнай дзяржаве.

### Якімі машынамі абсталяваны саўгас.

Большасьць буйных машын, якія ёсьць у саўгасе, закуплены ў Амэрыцы. З найбольш цікавага інвэнтару трэба адзначыць наступны:

*1) Камбайны*—машын гэтых, як ужо паказана было вышэй, маецца 25 шт. фірмы „Мак Корміка“ і „Ядванс-Румелі“. Шырыня захвату гэтых машын пры рабоце 16 футаў, але захват іх можа быць павялічаны да 22 футаў, калі хлеб рэдкі. На камбайне працуе 2 чалавека і трэці на трактары, які цягне машыну. Для працы камбайну патрэбен трактар у 60 конскіх сіл.



Камплект сявалак, які можа ў дзьве зьмены абсеяць 120 акраў плошчы (саўгас „Гігант“).

На камбайне маецца свой рухавік у 28 конскіх сіл. Камбайн адразу жне, малоціць і сартыруе зярно, якое паступае ў бак, ёмкасьцю ў 120 пуд., які зьмешчаны наверсе машыны. Калі бак напоўніцца зярном, то тады пад'яжджаюць трактарныя калёсы, куды ссыпаецца зярно. Адны такія калёсы абслугоўваюць 2-3 камбайны і сабранае зярно з поля вязецца на элеватар. За дзень працы ў дзьве зьмены камбайн зжынае 22 гэкт. збожжа. Салома можа раскідацца роўна па полі, калі яна не патрэбна для гаспадаркі, альбо складаецца на полі невялікімі копкамі, для гэтага пры камбайне маюцца асобныя прыстасаваньні. Кожны камбайн у сярэднім зжаў за лета 400 гэкт. пасеву. Усю салому саўгас прадаў па 15 кап. за пуд Саюзхлебу, які яе прэсуе і адгружае. Камбайн каштуе звыш 7.000 руб.

Камбайнам можна працаваць тады, калі хлеб дасьпяе і досыць сухі, калі гэтага няма, то для працы бярэцца машына „Хебэр“ (касілка), якая скашвае хлеб і складае яго сплашнымі валамі, у якіх ён да-

сьпявае і дасыхае на працягу аднаго ці некалькіх дзён. Паказаных машын у гаспадарцы маецца 7. За гадзіну адна такая машына скашвае 2 гэктары хлеба.

Для далейшае працы бярэцца другая машына „Пікер“, якая прыстасоўваецца да камбайна. Машына гэтая ў час працы падае збожжа з валоў на камбайн, які яго малоціць і сартуе.

2) *Снапавязалкі*—фірмы „Мак-Корміка“ і „Масэй-Гарыса“. Шырыня захвату іх 8 і 10 футаў. Машын гэтых маецца 190 шт. Да трактара ў 30 конскіх сіл прычапляецца па 2 такіх машыны. Маецца частка конных снапавязалак Любярэцкага заводу. Снапавязалак гэтых прычапляецца па 3 шт. да трактара. Адна снапавязалка за летні час зжала ў сярэднім 330 гэкт. збожжа. Па водзыву спэцыялістых саўгасу, снапавязалкі Масэй-Гарыса працуюць дрэнна, а Любярэцкія добра.

3) Малатарні — фірмы „Адванс-Румелі“. Разьмерам па барабану 36″ × 60″ і 32″ × 52″. Машын гэтых маецца 31 шт. За 10 гадзін машыны гэтыя намалачвалі ад 600 да 780 цэнтн. зярна. Пры самай машыне працуе 5 чалавек, а разам з падводчыкамі снапоў—18 чал. Машына на адным месцы абмалачвала ўраджай з плошчы 150 гэктр. пасьля чаго перасоўвалася на новае месца. За ўборачную кампанію адна малатарня абмалаціла ўраджай збожжа з плошчы каля 2.000 гэкт.

4) Сартоўкі—фірмы „Нейгаус“ і „Петкус“. Машын гэтых маецца 18 шт., у адну гадзіну яны сартуюць па 10 цэнт. зярна шасьці сартоў. Пры сартоўках маецца матор у 2,5 конскіх сілы. Каштоўнасьць такой сартоўкі 600 і 650 рубл. Адзін матарыст абслугоўвае тры такіх машыны. У сучасны момант саўгас выпісаў сартоўку, якая будзе сартаваць ад 160 да 240 цэнтн. зярна на працягу аднае гадзіны.

5) Трактары—у час, калі я быў у саўгасе (13 і 14 кастрычніка), у ім налічвалася 372 трактары наступных фірм і магутнасьці:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| а) | трактараў | „Інтэрнацыянал“ | у 15 сіл . . . | 99 шт. |
| б) | „ | „ | „ 30 „ . . . | 170 „ |
| в) | „ | „Клектран“ | „ 40 „ . . . | 60 „ |
| г) | „ | „Ойль-Пуль“ | „ 60 „ . . . | 43 „ |
| | | | Усяго . . . | 372 шт. |

Лепш усяго працуюць трактары „Інтэрнацыянал“, але для такой гаспадаркі як „Гігант“, магутнасьць іх недастаткова, трактары „Ойль-Пуль“ па водзыву спэцыялістых вельмі цяжкія.

Трактарысты працуюць зьдзельна і атрымліваюць ад 46 да 87 кап. з гэктара, у залежнасьці ад магутнасьці трактара. Зарабляюць яны ў сярэднім па 80 руб. у месяц. На зімовы час трактарысты будуць распушчаны і ім саўгас будзе выплачваць 33 проц. пэнсіі з умовай, што яны з вясны зноў зьявяцца на работу.

У саўгасе маецца яшчэ 46 грузавых аўта-машын і 15 легкавых.

На арганізацыю саўгасу ужо ўложана 4.000.000 руб. Згодна пляну, усяго мае быць уложана ў саўгас 12.000.000 руб. У саўгасе мае быць адчынены рабочы унівэрсытэт. У саўгасе выдаецца газэта.

У саўгасе намечана зрабіць пасадку лясных ахоўных палос вакол клетак, шырынёю ў 25 мэтраў і шэраг іншых мерапрыемстваў.

У бліжэйшыя год-два і мы будзем мець свайго роду гігант у БССР у выглядзе агро-індустрыяльных камбінатаў, калгасаў, да арганізацыі якіх мы зараз прыступаем, а таксама праведзеную суцэльную калектывізацыю па ўсёй Беларусі.

**А. Дубіна.**

# ПРА ЛЕСАГАДОЎЛЮ.

## Кіраваньне лясамі мясцовага значэньня ў сыстэме суцэльнай калектывізацыі.

У лясох мясцовага значэньня трэба весьці плянавую лясную гаспадарку, а не ператвараць іх у высечкі і распашкі. Лес, як вядома, акрамя драўніны, дае сельскай гаспадарцы шэраг каштоўных выгад, як у барацьбе з сухменямі, гэтак і ў кліматычна-гігіенічных адносінах, у абароне палёў ад пяскоў, рэк ад абмяленьня і шэраг інш.

Рабоча-сялянская савецкая ўлада, каб стварыць зацікаўленасьць насельніцтва лесам і навучыць сялян ня толькі секчы лес, але і правільна весьці лясную гаспадарку, а таксама ў мэтах забясьпечаньня як грамадзкіх патрэб, так і патрэб у драўніне бядняцка-серадняцкага насельніцтва,—перадала працоўнаму насельніцтву ў бестэрміновае і бясплатнае карыстаньне значную частку лясоў, плошчай у 536 тысяч гект. Насельніцтва штогод атрымоўвае з лясоў мясцовага значэньня да 900 тысяч куб. мэтраў драўніны, што з пераводам на грошы складае каля мільёну рублёў па таксе для сялян і 2½ міл. руб. па таксе для прамысловасьці.

Становішча лясоў мясцовага значэньня ў мінулым было нездавальняючым. Сяляне-лесакарыстальнікі дрэнна гаспадарылі ў лясох; высечкі, прагаліны, пажарышчы і пустыры амаль што не лесааднаўляліся, якіх на гэты час набралося да 40 тысяч гект. Ахова лесу адсутнічала; кулацка-заможная частка вёскі шляхам самачынных пасечак зьнішчала лясы.

У сувязі з суцэльнай калектывізацыяй вёсак і раёнаў,—вядзеньне лясной гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня зараз неабходна рэарганізаваць, прыстасаваўшы яе да форм калгасаў. Лясы мясцовага значэньня ў раёнах суцэльнай калектывізацыі трэба безадкладна перадаць калгасам і камунам.

Кіраўніцтва лясамі мясцовага значэньня трэба арганізаваць наступным чынам:

1) Гаспадарчае кіраўніцтва лясамі на тэрыторыі калгасаў падпарадкаваць Праўленьню Куста калгасаў, а ў маштабе раёну—Райкалгассаюзу, якія вырашаюць пытаньне карыстаньня драўнінай, лесааднаўленьня, аховы лесу і інш.

Для непасрэднага нагляду і правядзеньня гэтага Праўленьне Куста калгасаў выдзяляе ўпаўнаважаных лясоў мясцовага значэньня па асобных калгасах.

2) Для кіраваньня і правядзеньня тэхнічных работ, у асаблівасьці па ахове лесу ад розных пашкоджаньняў, па лесакультурах і інш. тэхнічных працах, пры Райкалгассаюзе трэба ўвесьці Тэхнарука спэцыялістага—лесавода і стварыць сталы кадр спэцыяльных працаўнікоў (культнаглядчыкаў) з дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, калгасьнікаў і сельгаслесрабочых праз асобныя лясныя курсы. Патрабуецца працаўнікоў для гэтай справы да тысячы чалавек. Неабходна ў акругах арганізаваць курсы для працаўнікоў па лясох мясцовага значэньня.

Карыстаньне драўнінай трэ‘ рабіць паводле плянаў лясной гаспадаркі і ў адпаведнасьці да запатрабаваньняў вытворчага пляну будаў-

ніцтва калгасу. У першую чаргу трэба выкарыстоўваць паасобныя дрэвы на палёх і групы дрэў, якія не ўваходзяць у склад лясоў мясцовага значэньня.

Для лепшага задавальненьня патрэб калгасаў у драўніне і захаваньня сталасьці карыстаньня,—лясная гаспадарка ў лясох мясцовага значэньня павінна быць арганізавана паводле плянаў лесаўпарадкаваньня. У зьвязку з гэтым у першую чаргу неабходна ўпарадкаваць лясы, пераданыя калгасам. Тэхнічны нагляд за выкананьнем плянаў лясной гаспадаркі, згодна § 27 Палажэньня аб лясох—робіцца дзяржаўнымі ляснымі органамі, як-та лясьніцтвам і інспэктарыятамі лясоў.

Агульны нагляд за адміністрацыйна-гаспадарчым кіраўніцтвам лясамі мясцовага значэньня праводзіцца сельсаветам і райвыканкомам.

Калгасы павінны прыняць усе захады да лесааднаўленьня высечак, прагалін і пустыроў як натуральным, гэтак і штучным парадкам. Для гэтага Кустовае Праўленьне калгасаў павінна скласьці грашовы фонд, які выдаткуецца выключна на мерапрыемствы па лесаўзнаўленьню, ахове леса, упарадкаваньню лясоў і на лясныя работы.

Што-ж датычыцца арганізацыі гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня на тэрыторыі яшчэ неабхопленай суцэльнай калектывізацыяй,—дык зараз-жа неабходна аб'яднаць разрозьненыя таварыствы лесакарыстальнікаў і насельніцтва, не атрымаўшага ў карыстаньне лясоў у буйныя аб'яднаньні—лясныя калгасы ў межах раёнаў.

Такія аб'яднаньні дадуць магчымасьць лепш арганізаваць гаспадарку ў лясох мясцовага значэньня, спыніць драпежніцкія высечкі, дапамогуць лесааднаўленьню высякаемых плошчаў.

Зараз усёй грамадзкасьці, калгасьнікам, саўгаскім рабочым, сельгаслесрабочым, камсамолу, лясным спэцыялістым, настаўніцтву і бядняцка-серадняцкай частцы вёскі трэба безадкладна мабілізаваць сваю ўвагу навокал арганізацыі лясной гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, прыстасоўваючы яе да форм калектывізацыі сельскай гаспадаркі і існуючага Палажэньня аб лясох мясцовага значэньня (надрукав. у газ. „Савецкая Беларусь“ № 125 за 5-е чэрвеня 1929 году) і вядзеньня бязьлітаснай барацьбы з кулакамі і заможнікамі, зьнішчаючымі лясы мясцовага значэньня.

Зараз трэба ўзяцца за арганізацыю кіраўніцтва лясной гаспадаркай у лясох мясцовага значэньня і за працу па лесааднаўленьню высечак, прагалін і пажарышч. Па вытворчых плянах за 1928-29 год меркавалася штучна лесааднавіць да 2.000 *га*, а ў 1929-30 г. запраектавана закультаваць 5.000 *га*.

Насельніцтву, калгасам і саўгасам трэба зараз-жа паклапаціцца аб забясьпечаньні і зборы насеньня для штучнага лесааднаўленьня, маючы на ўвазе блізкі надыход вясеньняй пасеўкампаніі, каб поўнасьцю выканаць вытворчы плян па гаспадарцы ў лясох мясцовага значэньня.

**Міхасенка Е. П.**

---

# За рацыянальнае выкарыстаньне драўніны.

У мінулым на лес глядзелі, як на падарунак прыроды, а на драўніну, як будоўны матар'ял і апал, але з сучаснага пункту погляду гэта далёка ня так.

Зараз з драўніны пры мэханічнай перапрацоўцы атрымліваюць: бярвеньне, брусы, дошку, клёпку розных гатункаў, гонту, абады,

калёсы, фанеру розных гатункаў (з асіны, вольхі, дубу, сасны, бярозы), ачломку для сярнічак, мэблю і розныя прылады для сельскагаспадарзых машын. Але з сучасным разьвіцьцём тэхнікі, прамысловасьці і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі такое выкарыстаньне драўніны сьяўляецца нерацыянальным, бо драўніну трэба разглядаць як сыравіну для хэмічнай перапрацоўкі.

Пры хэмізацыі краіны, прамысловасьці і сельскае гаспадаркі,—лесу прыналежыць вялікая будучыня, бо прадукт лесу—драўніна можа здаволіць амаль што ўсе патрэбы чалавека, пачынаючы ад вопраткі і канчаючы ядой.

Хэмічнай перапрацоўкай з драўніны можна атрымаць: вугальле, дзёгаць, смалу, каніфоль, шпігінар, воцат, сьпірытус, штучны шоўк, паперу, сажу для друку, штучныя фарбы, цэлюлёзу, бяздымны порах—піраксілін, розныя прапітачныя сокі, фармацэўтычныя лекавыя матар'ялы, цукар, крахмал, а з кары дуба, елкі і івы—дубільныя сокі для скуранай прамысловасьці, а з апілак робіцца незгараемы матар'ял для падлогі і шэраг іншых рэчаў.

З хэмізацыяй краіны лес павялічыць ў дзесяць разоў прыбытковасьць сваіх прадуктаў і значна палепшыць дабрабыт працоўных мас.

У нас значна панізілася лясістасьць, ёсьць раёны, дзе нельга задаволіць нават патрэб мясцовага насельніцтва ў драўніне да мінімальнае нормы. Адначасова з гэтым мы яшчэ і зараз нерацыянальна выкарыстоўваем драўніну. Наша сялянства, а месцамі і мясцовая прамысловасьць, і саўгасы, і калгасы яшчэ недастаткова зьвяртаюць увагі на неабходнасьць збору ламачча ў лесе, павалу, сучча і адкідаў і выкарыстаньня ўсяго гэтага, як апалу, а больш усяго ўжываюць сырую бярозава-асінавую драўніну з пня, лічачы іх дрывянымі пародамі. Мы да 40 проц., а месцамі і да 60 проц. сырой драўніны з лесасек штогодна выкарыстоўваем на апал, атрымліваючы ад гэтае апэрацыі нязначныя грошы і трацячы на гэтым усё тое, што мы маглі атрымаць з яе пры хэмічнай альбо мэханічнай перапрацоўцы.

Нам зараз-жа неабходна, асабліва ў бязьлесных і малалесных мясцох, перайсьці на тарфяны апал. У далейшым нам трэба берагчы кожнае дрэўка і адрубак, бо гэта ёсьць сыравіна для нашай прамысловасьці.

Плошча тарфяных балот у нас на Беларусі складаецца з некалькіх сот тысяч гектараў, што з пераводам іх на сухі торф будзем мець мільярды кубічных мэтраў тарфянога апалу. Нам заўсёды можна здабыць торф на апал, які бывае лепш дравянога апалу,—для гэтага неабходна набываць торф з добра падрыхтаванага для копкі балота і паліць яго ў асобна пабудаваных для гэтага печах, можна паліць торф і ў рускіх печах з зробленым асобным паддувалам.

Нашым установам, бальніцам, школам, аграпунктам, лясьніцтвам, саўгасам, калгасам і насельніцтву зараз-жа трэба перайсьці ад выкарыстаньня сырой драўніны на апал і замены яго ламаччам, пнямі і, галоўным чынам, торфам, які пры масавай здабычы будзе значна таней дрывянога апалу і пры распрацоўцы балот з яго можна вырабляць тарфяны падсьціл для жывёлы і ўгнаеньне для палёў.

**Міхасенка Е. П.**

---

# ХРОНІКА.

## Становішча трэсьціраваных саўгасаў.

*(Віцебская акруга).*

У працы трэсьціраваных саўгасаў ёсьць некаторае палепшаньне, а менавіта: павялічыліся сродкі вытворчасьці, пашырылася пасеўная плошча, павялічыўся агуловы ўраджай супроць мінулага году і малочнае стада

## Вынаходца — рабочы саўгасу.



**Тав. Казлоўскі** (рабочы ў саўгасах Белсельтрэсту каля 8 год) сконструіраваў трактарную бульбакапалку, якая адрозьніваецца ад амэрыканскай. Ідэя яго вынаходкі адобрана НКЗБ, а рысункі свае машыны ён прадставіў на Менскую машынаспробную станцыю, пасьля чаго быў камандыраваны у Белдзяржакадэмію С. Г.

палепшылася матар'яльнае становішча рабочых саўгасаў, значна пашырылася агратэхнічнае абслугоўваньне бядняцка-серадняцкага насельніцтва вакольных вёсак і г. д.

У вогуле-ж становішча саўгасаў Віцебскае акругі покуль што застаецца нездавальняючым. Тлумачыцца гэта тым, што з боку райвыканкомаў, Белсельтрэсту і грамадзкіх арганізацый ня было зьвернута дастатковай увагі саўгаснаму будаўніцтву і ня ўлічаны такі момант, што саўгасы зьяўляюцца правадырамі ў суцэльнай калектывізацыі.

З боку Плянстату адсутнічала плянавае рэгуляваньне савецкімі гаспадаркамі. Саўгасы акругі па сваім тэрытарыяльным разьмерам, яшчэ і да гэтага часу зьяўляюцца дробнымі (у сярэднім на гаспадарку 482 *га*). Чым выклікана такое зьявішча? Тым, што з боку Белсельтрэсту, а таксама і райвыканкомаў акругі ня былі прыняты пэўныя крокі да таго, каб узбуйніць іх, за выключэньнем саўгасу „Ходцы".

Адсутнічае вузкая спэцыялізацыя ў напрамку разьвіцьця паасобных галін гаспадаркі, нізкая вытворчасьць і якасьць працы і працдысцыпліны, высокі сабекошт прадукцыі, недахоп зваротных і грунтоўных сродкаў, усё гэта трэба лічыць асноўнымі недахопамі, якія перашкаджаюць далейшаму разьвіцьцю нашых савецкіх гаспадарак.

Дрэнна ўжываюцца мерапрыемствы ў галіне зьніжэньня сабекошту прадукцыі, падвышэньня кваліфікацыі рабочых і разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва паміж саўгасамі і паасобнымі рабочымі і адсутнічае кантроль за выкананьнем умоў па сацспаборніцтву.

Хаця і ёсьць некаторы колькасны ўзрост малочнага стада, але-ж трэба сказаць, што папаўненьне малочнае жывёлы саўгасаў яшчэ зьяўляецца недастатковым, бо забясьпечанасьць складае ўсяго 39 проц. патрэбнасьці пры нізкім удоі і нізкай таварнасьці саўгасаў.

Што-ж трэба зрабіць, каб палепшыць становішча саўгасаў? А вось што: Віцебскі Плянстат павінен будзе ўвязаць плянавую працу савецкіх гаспадарак з агульным плянам акругі, а райвыканкомам і Белсельтрэсту ўзмацніць і мэханізаваць існуючыя саўгасы праз выкарыстоўваньне ўсіх мажлівасьцяй, як, напрыклад: пашырыць пасеўную плошчу (за лік расьцяробак хмызьнякоў), скарыстаньня выпасаў і незанятых папараў, вышуканьня новых фондаў, нескарыстоўваемых зямель і далучэньня сялянскіх зямель пры правядзеньні агульнай калектывізацыі ў акрузе, а разам з гэтым аб'яднаць сумежныя саўгасы. Прыдзецца прыняць усе меры да таго, каб саўгасы сапраўды зьявіліся правадырамі калектыўных форм гаспадаркі.

Плянстат павінен паклапаціцца і аб тым, каб па пяцігадоваму пляну была прадугледжана арганізацыя новых саўгасаў з разь-

віцьцём вузкае спэцыялізацыі ў напрамках жывёлагадоўлі, сьвінаводзтва і ільнаводзтва.

Павінна быць паднята вытворчасьць і якасьць працы і працдысцыпліна пры адначасовым зьніжэньні сабекошту прадукцыі. Гэтыя мерапрыемствы павінны праводзіцца пры шырокім удзеле грамадзкіх арганізацый і шчыльнай сувязі з мэханізацыяй усіх галін гаспадарак і арганізацыяй працы: палепшаньня кваліфікацыі рабочых, пашырэньня агранамічных ведаў сярод рабочага актыву саўгасаў і г. д.

Культурны ўзровень саўгаскіх рабочых таксама павінен быць падняты, шляхам палепшаньня і пашырэньня грамадзкай працы і поўнае ліквідацыі няпісьменнасьці. Трэба прыняць адпаведныя меры і да ажыўленьня працы вытворчых камісій і агульных нарад, забясьпечыўшы кіраўніцтва апошнімі, уцягваючы асноўныя пласты рабочых у непасрэдную практычную працу і рашуча праводзячы ў жыцьцё мерапрыемствы вытворчых камісій і нарад.

Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва пры шырокай дапамозе грамадзкіх арганізацый паміж саўгасамі і паасобнымі рабочымі, вылучаючы ўдарныя брыгады і пашыраючы шэфства над калгасамі і вёскамі. Сацыялістычнае спаборніцтва павінна праводзіцца ў напрамку падняцьця вытворчасьці і якасьці працы, а таксама кіраўніцтва гаспадарчымі пытаньнямі, падняцьця ролі саўгасаў у правядзеньні суцэльнае калектывізацыі і каапэраваньня сялянства, зьніжэньня сабекаштоўнасьці прадукцыі пры пераходзе на зьдзельныя формы аплаты працы і г. д.

Забясьпечыць поўнасьцю шырокую папулярызацыю канкрэтных мерапрыемстваў і ролі саўгасаў у пасеўнай кампаніі па абслугоўваньню агратэхнічнымі мерапрыемствамі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і калгасаў, па забесьпячэньні стопроцантнае нагрузкі на машыны, па ачыстцы насеньня і ільгот па абслугоўваньню. У гэту працу павінен быць уцягнуты ўвесь саўгаскі актыў рабочых шляхам заключэньня сацыялістычных умоў паміж саўгасамі і калгасамі на лепшую падрыхтоўку да вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Зьвярнуць асаблівую ўвагу на зьнішчэньне ў саўгасах безгаспадарчасьці, вядучы з апошняю самую бязьлітасную барацьбу. Саўгасы павінны быць забясьпечаны адпаведнымі кадрамі спэцыялістых і кваліфікаванымі рабочымі.

Вось тое, што на сёньнешні дзень ёсьць у саўгасах Віцебскае акругі і што трэба канкрэтна зрабіць для зьнішчэньня адзначаных недахопаў.

С. Л.

---




Адказны рэдактар **П. Рачыцкі.** Рэдактар—**Рэдкалегія.**

## ЗЬМЕСТ

МАЛЮНАК НА ВОКЛАДЦЫ: Курсанты яўрэйскага с.-г. тэхнікуму кормяць сьвіней (Курасоўшчына, Менскай акругі).

**Цана 20 кап.**



# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс соцыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікам калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

| ПАДПІСНАЯ ПЛАТА: | | |
|---|---|---|
| | На год | 2 р. 20 к. |
| | На 6 м-цаў | 1 р. 10 к. |
| | На 3 м-цы | 60 к. |
| | Паасобны нумар | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

**Ёсьць камплекты „ПЛУГА“ за ранейшыя гады. Цана камплекту 1 р. 10 к.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б.**



Друкарня БДВ. Заказ № 1292. У ліку 10 000 экз. Галоўлітбел № 1217.